PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (2025) ГОД XL БЕЛАСТОК 5 САКАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## Бліскучыя зоркі беларускай эстрады



*Старшыня БДА Пятро Крук (усярэдзіне) спявае ў беластоцкім хоры БГКТ.*

18 і 19 лютага 1995 г. у Беластоку адбыўся 26 агляд або II Фестываль беларускай песні. Мерапрыемства арганізавала ГП БГКТ. У спартыўную залу клуба „Влукняж" („Тэкстыльшчык") прыехала 68 выканаўцаў, з ліку якіх аж 38 было ўзнагароджаных і дапушчаных да ўдзелу ў канцэрце лаўрэатаў.

Элімінацыі праходзілі ў суботу, ужо з дзевяці раніцы. Агляд абмежаваўся толькі да выканання адной песні даным калектывам. Мастацкія магчымасці ацэньвала журы з пяці асоб — тры музыкі і двух працаўнікоў Міністэрства культуры. Пра гледачоў можна сказаць толькі тое, што ў суботу была іх горстка, а ўся астатняя публіка — гэта ўдзельнікі агляду. Затое ў нядзелю вялікая зала была шчыльна запоўненая.

Мне асабіста найбольш падабаліся хоры і музычныя групы з Гайнаўшчыны. Самыя моцныя ўражанні пакінулі маладыя спевакі з Чаромхі. Выступілі яны ў двух варыянтах: як маладзёжны калектыў і як гурт „Чарамшына" з песнямі „На вуліцы мокра" і „У полі два дубочкі". Амаль як адзіныя выступілі яны не ў традыцыйных фальклорных уборах, а ў звычайных, сучасных вопратках. Выглядалі непараўнальна прыгожа, бо галоўным акцэнтам была тут самая маладосць. Не было тут таксама, часта недарэчнай, стылізацыі пад савецкую эстраду, з чым павінны змагацца многія сёлетнія выканаўцы. Чаромхаўскія артысты апрача спеваў паказалі ігру на народных інструментах. Гэтае спалучэнне якраз найбольш узбагаціла іх рэпертуар. На жаль, не атрымалі яны высокіх ацэнак журы, але думаю, што якраз яны маюць найцікавейшыя перспектывы развіцця. На іхні канцэрт прыйдуць не толькі паклоннікі традыцыйнай беларускай песні, але і моладзь шматнацыянальнага горада. Спяваюць жа яны беларускія, палескія, украінскія, лэмкаўскія і польскія народныя песні пра каханне.



*Анна Раманюк і Вольга Кандратовіч з Дубяжына.*

Новую, цікавую і прыгожую інтэрпрэтацыю песні Сяржука Сокалава-Воюша „Беларусь мая" прадставіў Мар'юш Ажэхоўскі з гайнаўскаяга белліцэя. У падобным стылі выступіла вядомая ўжо чытачам „Нівы" Мар'я Аліфер, студэнтка Тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў у Менску. Гэтыя два салісты, дарэчы, больш бы падыхо-дзілі да мерапрыемства тыпу „Бардаўская восень".

Прыгожыя, чыстыя і звонкія галасы і высокі ўзровень выканання прадставілі дэбютанткі Магда Міхальчук і Марта Дэкаловіч. Шкада толькі, што паўтарылі яны агульнавядомы шэдэўр непараўнанага „Белага сну" з Беластока.

Зусім недарэчна, на мой погляд, імпрэзу, дзе пераможна царствуе фальклор, называць фестывалем беларускай песні. Зусім адэкватнай і прыгожай назвай былі б „Сустрэчы з фальклорам" або „Беларуская народная песня". А называнне арганізатарамі гэтага мерапрыемства „святам беларускай культуры" ёсць найбольш дэмагагічным лозунгам нецікавай мінуўшчыны. Мабыць, да такога абсягу зводзіцца іхняе разуменне культуры ў шырокім сэнсе.

— Спевакам жадаю высокага ўзроўню выканання, а вам, высокапаважаная публіка, высокага ўзроўню мастацкага перажывання (цытую за радыёперадачай ад 19.02.1995 г. — Г.К.), — сказаў усім старшыня ГП БГКТ. Пры нагодзе дадам, што лексіка канферанс'е была настолькі непаўторная, што развесяліла не аднаго, здольнага думаць, слухача. На сцэну запрашаліся „творчыя выканаўчыя адзінкі", а рабілі гэта „заслужаныя дзеячы беларускай і польскай культуры".

Калі гаварыць пра фальклорную песню, то варта заўважыць, што ў гэтай галіне Беласточчына мае чым пахваліцца. Свой стыль і чароўную прывабнасць не страцілі Гарадоцкі хор, бліскучая бельская „Маланка" і лірычны хор Гайнаўскага дома культуры.

Амаль усім варта было б прысвоіць першае месца перш за ўсё за нязгасны энтузіязм. А такіх народных артыстаў і місіянераў песні як Люба Гаўрылюк, Ала Дубец, Сцяпан Копа, Сяргей Лукашук варта ўзнагародзіць не толькі маральна.



*Міра Панфілюк — увасабленне прыгажосці Гайнаўскага хору.*

Калі браць пад увагу сучасны фальклор, то варта назваць тут народную спявачку з Краснага Сяла Вольгу Валосік, якая заўважыла кашмарную з'яву нашых вёсак — алкагалізм. Асабліва спадабалася мне ейная метафара „мое п'янэ горэ" — пра сямейніка-мужа, і яркі талент Ніны Такаюк з Мікуліч. Гэтая апошняя ўмее вельмі тэатральна выступаць на сцэне.

Аднак самым цікавым выступленнем у катэгорыі фальклорнай песні лічу дуэт Анны Раманюк і Вольгі Кандратовіч з Дубяжына. Гэтыя спявачкі вядомыя не толькі беларускай публіцы, але і ўкраінскай. Спадарыня Вольга і Анна — родныя сёстры, з сям'і Зіны і Васіля Томчыкаў. Як расказалі мне жанчыны, іхняя кар'ера спявачак пачалася ў дзяцінстве. Паходзяць яны з музыкальнай, расспяванай сям'і. Іх талентам маюць нагоду захапляцца ўсе вернікі прыхода ў Падбеллі. Сам мітрапаліт Васілій пахваліў іх арыгінальнасць і аўтэнтычнасць.

А ў галіне эстраднай песні, як заўсёды, добра паказаўся гурт „Рэаль". Самае іх паяўленне на сцэне выклікала ў публікі шалёны энтузіязм. І здаецца найбольшы.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

P.S. Рэдакцыя „Нівы" ў гэтым годзе купіла журналісту ўваходныя білеты, каб пазбегнуць дзікай прапаганды, якая летась разышлася „ў народзе", быццам бы журналісты „Нівы" ўваходзілі ў залу без білетаў і валяліся п'яныя. Найбольш смешнае ў гэтым усім было тое, што мае сябры журналісты з польскіх рэдакцый атрымалі бясплатныя запрашэнні або ўваходзілі за журналісцкім пасведчаннем.

**Г. К.**



*Жанчыны з Паўлаў у самых прыгожых уборах.*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Związek Polaków na Białorusi przeżywa obecnie ciężki okres w swojej działalności. Nasze wieloletnie nadzieje na to, że rząd białoruski wybuduje nam, Polakom, szkołę polską w Grodnie, zostały chwilowo zachwiane. Czegoś podobnego nie ma w żadnym cywilizowanym państwie,* — піша старшыня Саюза палякаў у Беларусі Тадэуш Гавін.

*(Głos znad Niemna, nr 4; Pismo Związku Polaków na Białorusi)*

Panie Gawin, czy nigdy pan nie był w Białymstoku?

* * *

*Czy można sobie wyobrazić, żeby władze miasta dopuściły by w Białymstoku były dwujęzyczne nazwy ulic. Chyba nie. Obecnie obowiązują oczywiście inne prawa wobec mniejszości narodowych, ale nie oznacza to, żeby w dużych skupiskach ludności stosować dwujęzyczne nazwy ulic.*

*(Gazeta Współczesna, nr 33)*

Артыкул надрукаваны быў у дадатку „Monitor Białostocki — dodatek samorządowy” redagowany przez Urząd Miejski w Białymstoku. У склад рэдакцыйнай рады ўваходзяць старшыня Гарадской рады Ян Хайноўскі і прэзідэнт горада Анджэй Люса. У гэтым самым нумары змяшчаюць спадары „айцы горада” ананімны ліст адрасаваны да сябе, напісаны быццам бы жыхарамі Гайнаўкі. Зразумела, гайнаўскія беларусы хваляць у ім Люсу за яго нацыянальную палітыку ў Беластоку. Прапаганда паводле найлепшых узораў з пяцідзесятых гадоў.

* * *

*Прэзыдэнт Лукашэнка, выступаючы на сэсыі Гомельскага гарсавету, тлумачыў дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску. Бо беларуская мова, бачыце, „бедная”. Бедная? „Беларуска-рускі слоўнік” выдадзены ў Менску ў 1980 г. мае больш як сто тысяч слоў. Дык бедная не мова, а бедна ў галаве ў сп. Лукашэнкі. У штодзённым жыцьці чалавек карыстаецца толькі некалькімі тысячамі слоў. З усіх пісьменьнікаў найбольшы запас слоў налічылі ў Шэкспіра — сямнаццаць тысяч. Цікава, які запас слоў беларускае мовы ў сп. Лукашэнкі?*

*(Беларус, н-р 420; Ню Ёрк)*

Нам здаецца, што запас слоў у прэзідэнта Л. большы, чым у Шэкспіра. Адначасова гаворыць ён на рускай, беларускай і яшчэ нейкай — пакуль што бліжэй неакрэсленай — мове. Такое здзейсніць можа толькі асабліва таленавіты чалавек. Нават Бацька Польскага Народа мадэрнізаваў толькі мову варшаўскіх салонаў. Але вывучае ўжо англійскую.

* * *

*Patrząc na to, co się dzieje w naszym kraju, mam wrażenie, jakbym się znalazł w siedemnastowiecznej Polsce, odgradzającej się od Europy murem ciemnogrodu i ksenofobii. Tamte czasy najbardziej przypomina upadek oświaty i wszechwładza Kościoła katolickiego. Brakuje tylko pojedynków i pańszczyzny, którą zastąpiły podatki.*

*(Wprost, nr 7)*

Чакае нас „саксонская эпоха”. А тады будзе: „jedz, pij i popuszczaj pasa”.

* * *

*Zwolennicy lidera rosyjskich faszystów Żyrynowskiego z Brześcia urządzili święto dla miejscowych pijaków. Członkowie partii Liberalno-Demokratycznej z Brześcia postanowili uzupełnić braki kadrowe organizacji wydając butelkę wódki dla nowo przyjętych członków. Co prawda nie „Russkoj” ani nawet „Moskowskoj” tylko znacznie podlejszej „Ukraińskiej gorzkiej”. Nikomu to jednak zbytnio nie przeszkadzało. Szeregi partii gwałtownie rosły. Świeżo przyjęci działacze wracali do brzeskiej siedziby, prowadząc ze sobą nowych kandydatów lub byli przez nich prowadzeni.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 35)*

* * *

*Nie pomoże nam żaden Niemiec, żaden Francuz, ani dobry wujek z Ameryki. Na pomoc zasługują tylko ludzie cywilizowani, nie jacyś neandertalczycy, co nawzajem ucinają sobie głowy. Tej wiosny obchodzimy dziesiątą rocznicę pierestrojki, która przerodziła się w „pieriestriełkę”. Wojna wszystko usprawiedliwi, pozwoli przekreślić wszelkie problemy socjalne w sposób pozornie prawny. „Dlaczego pytasz, babciu, o swoją rentę? Przecież mamy wojnę”. Reformy w Rosji przepadły. Źli politycy we wszystkich krajach i czasach szukają w takiej sytuacji drogi wyjścia w postaci wojny,* — сказаў расейскі генерал Аляксандр Лебедзь.

*(Forum, nr 6)*

* * *

*W Białej Podlaskiej mówi się, że Oleksy załatwił przydział samochodu dla klasztoru greckokatolickiego w Jabłecznej.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 37)*

На Ануфрыя манастыр быў яшчэ праваслаўны. Нам, аднак, цяжка паверыць, што манахі памянялі веравызнанне.

* * *

*Кампазітар Эдуард Ханок напісаў першую песню для „незалежнага беларускага войска” — на рускай мове.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 4)*

Молодец, Эдуард! Очень хороший с него интернационалист, даже лучший, чем президент Белой Руси!

* * *

*Reprezentacyjny Zespół Artystyczny Wojska Polskiego przeszedł głęboką metamorfozę. Artyści zmienili furażerki na cylindry i zamiast maszerować, stepują w rytm amerykańskich przebojów musicalowych. Już nie polonez, lecz charleston jest ulubionym tańcem naszych obrońców i nie do sanitariuszki Marusi wzdychają oni, lecz do nadobnej Dolly. Reprezentacyjny Zespół Artystyczny Wojska Polskiego jest już w NATO.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 38)*

І добра, найважнейшае не быць сіратою, а „старэйшы брат” заўсёды знойдзецца.

* * *

*W przeszłości członkowie miejscowej hierarchii katolickiej prawie zawsze popierali wojny toczone przez ich kraj, udzielając błogosławieństwa wojskom i zanosząc modlitwy o zwycięstwo, podczas gdy inna grupa biskupów po tamtej stronie modliła się publicznie o odwrotny wynik. Religia często odgrywa dominującą rolę jako podżegacz wojenny. Kościoły często dekorowane są sztandarami bojowymi. Pierwsi chrześcijanie nie uczestniczyli w wojnach, stosowali się w życiu do polecenia Jezusa. Chrześcijanin nie mógł być żołnierzem. Dziś Kościoły chrześcijańskie świetnie potrafią rozpalać żądzę krwi.*

*(Przebudźcie się, nr 11)*




**Вынікам афіцыйнага візіту прэм'ер-міністра Расеі Віктара Чарнамырдзіна** ў Польшчу было падпісанне сямі дакументаў, якія рэгулююць двухбаковае супрацоўніцтва, у тым ліку пратакола ў справе будовы польскага адрэзка газапровода з паўвострава Ямал у Заходнюю Еўропу.

Сёлетняю вясною пачнуцца геадэзічна-земляныя работы пры будове польскага адрэзка **газаправода Расея — Нямеччына.** Газавая магістраль будзе будавацца паасобнымі часткамі і пачнецца ад заходняй мяжы. На ўсходзе нітка газаправода ўвойдзе ў Польшчу каля вёскі Кандраткі Міхалоўскай гміны. Жыхары гэтай гміны разлічваюць, што і ім нешта перападзе з гэтай вялікай інвестыцыі. Частка жыхароў знойдзе занятак пры земляных работах і старажаванні на будаўнічых пляцоўках. Некаторыя будуць здаваць кватэры прыезджым рабочым. Найважнейшае аднак тое, што насельніцтву будзе дадзена магчымасць карыстацца газам.

**Пасольства Расейскай Федэрацыі** патрабуе ад польскіх улад закрыцця кракаўскага Чачэнскага інфармацыйнага цэнтра. Расейскае дыпламатычнае прадстаўніцтва лічыць, што Цэнтр будзе праводзіць антырасейскую прапаганду ў Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах, што пярэчыць духу польска-расейскага трактата. Польскае Міністэрства замежных спраў заявіла, што расейскі бок не мае падстаў для такіх патрабаванняў, паколькі Цэнтр засяроджваецца на інтэнсіўнай дзейнасці ў карысць ахвяр вайны ў Чачні, што не з'яўляецца непрыязным ці варожым актам у адносінах да Расеі. Адказ МЗС пакрытыкаваў прэс-сакратар расейскага пасольства, які сказаў, што цяжка палічыць акцыяй гуманітарнай дапамогі антырасейскія дэманстрацыі ў Кракаве.

**Прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас,** які прабываў у Польшчы з афіцыйным візітам, сустрэўся ў Варшаве з прадстаўнікамі літоўскай нацыянальнай меншасці.

**Шансы і пагрозы ў гаспадарчым супрацоўніцтве з Літвою, Расеяй і Беларуссю** — так называўся семінар для прадпрыемстваў, у якіх большасць працаўнікоў складаюць інваліды. На думку кіраўнікоў такіх фірм продаж тавараў на Усход стварае вялікія шансы для прадпрыемстваў такога тыпу. У семінары, які праходзіў у Супраслі, прымала ўдзел 70 краёвых прадпрыемстваў і 20 фірм з Усходу.

У канцы лютага быў зменены **праект бюджэту горада Беластока на 1995 год** (ранейшы праект быў распрацаваны ў снежні мінулага года). Зменены праект прадугледжвае большыя датацыі для Гарадскога асяродка грамадскай дапамогі, а таксама для таварыстваў і культурных арганізацый нацыянальных меншасцей.

**Дырэктарам Ваяводскай дырэкцыі гарадскіх дарог ваявода назначыў Мікалая Ваўранюка** — раднага з клуба праваслаўных Гарадской рады ў Беластоку.

**Ваяводская калона хуткай дапамогі ў Беластоку** адкрыла свой першы філіял у **Сямяцічах.** Дзякуючы гэтаму сямяціцкая ахова здароўя атрымала рэанімацыйную карэту хуткай дапамогі з поўным абсталяваннем, г.зв. „эрку”. Чарговыя карэты атрымаюць **Саколка і Гайнаўка.**

**Ваяводская рада занятасці насельніцтва ў Беластоку** падзяліла 8,6 млн. зл. на актыўныя формы барацьбы з беспрацоўем. Найбольш, бо 4,2 млн. зл. атрымала раённая ўправа ў Беластоку. Саколцы дасталася 1,1 млн., Бельску — 0,9 млн., Гайнаўцы — 0,65 млн., Дуброве — 0,46 млн., Монькам — 0,44 млн., Сямяцічам — 0,43 млн. і Лапам — 0,42 млн. зл.

**У Белавежы** адбылася нарада куратараў з дзесяці ваяводстваў паўночнага-ўсходняга макрарэгіёна. Яе галоўнай тэмай быў педагагічны нагляд у школах і павышэнне эфектыўнасці працы.

**119 ікон** выявілі паліцыянты падчас праверкі „Форда” з літоўскімі рэгістрацыйнымі нумарамі каля мясцовасці Свідры Ломжынскага ваяводства. У машыне падарожнічалі пяць расейцаў і адзін літовец. Аказалася, што іконы перавезлі расейцы на падробленых дакументах, а літовец меў яшчэ з сабою 181 літр спірту „Роял”.




- Махнатае — вёска гаспадарных людзей.
- Фотарэпартаж з Фестывалю беларускай песні.
- Цяжка быць артыстам і жыхарам вёскі.
- Экуменізм у сярэдзіне пушчы.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прэзідэнцкі рэйтынг

Галоўнай сенсацыяй апошніх тыдняў назвалі сацыёлагі Цэнтра даследаванняў будучыні вынікі апытання адносна папулярнасці прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Апытанне паказала, што 13,3% жыхароў рэспублікі адобрылі дзеянні абранага паўгода таму прэзідэнта. 43,5% не падабаецца, як Лукашэнка выконвае абавязкі, а 87,2% ацэньваюць эканамічную сітуацыю як катастрафічную.

## Украінцы паспяшаліся

Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб лічыць, што ўрад Украіны паспяшаўся з увядзеннем у дзеянне беларуска-расейскіх пагадненняў. Ён меў на ўвазе падпісанае ўкраінскім бокам у Маскве 5 студзеня г.г. пагадненне аб мытным саюзе і аб перадачы ў карыстанне Расеі на 25 гадоў стратэгічна важных для Масквы аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі Беларусі — станцыі ранняга апавяшчэння ракетнага ўдару ў Ганцавічах і цэнтра кіравання атамным падводным флотам Расеі ў горадзе Вілейка. Кіраўнік парламента заявіў, што бачыць у пастанове ўкраінскага ўрада перавышэнне сваіх паўнамоцтваў, а таксама парушэнне закона аб знаходжанні на тэрыторыі Беларусі расейскіх войск, паводле якога расейскія ваенныя фарміраванні павінны быць выведзены з рэспублікі ў 1996 годзе.

## Брытанская інспекцыя

На авіяцыйнай базе, размешчанай у пасёлку Рось на Гродзеншчыне, завяршыла работу інспекцыйная група з Вялікабрытаніі. Згодна з дагаворам інспекцыйныя групы еўрапейскіх дзяржаў маюць права праводзіць кантроль звычайных узбраенняў на аснове прадстаўленай краінамі штогодняй інфармацыі. Брытанскі бок адзначыў абавязковае захаванне Беларуссю палажэння аб звычайных узброеных сілах у Еўропе.

## Абноўленая камісія

Адбылося пасяджэнне Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Гэта было першае пасяджэнне гэтага органа пасля зацвярджэння яго ў новым складзе пастановай Кабінета Міністраў. Узначальвае камісію міністр замежных спраў Уладзімір Сянько. Камісія па справах ЮНЕСКА ствараецца ў кожнай дзяржаве, якая з'яўляецца членам гэтай арганізацыі. Як правіла ў яе склад уваходзяць найбольш вядомыя прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, якія працуюць у сферы кампетэнцыі ЮНЕСКА — адукацыі, навукі, культуры і камунікацыі.

## Дзень воінаў-інтэрнацыяналістаў

15 лютага Гомель сціпла адзначыў Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, абвешчаны ўказам прэзідэнта. Арганізаваны быў выезд аўтобусамі ветэранаў-афганцаў, родных і блізкіх загінуўшых на гарадскія могілкі, дзе пахавана нямала „цынкавых хлопчыкаў”, пабітых пад Кабулам, Кандагарам, у даліне Панчэр. 120 маладых жыццяў каштавала Гомельскай вобласці афганская авантура. А ў Магілёве людзі, якія калісьці служылі ў Афганістане, усклалі кветкі на магіле Андрэя Мельнікава. Частка былых афганцаў прыйшла на сустрэчу, на якой падзяліліся ўспамінамі аб той бязлітаснай вайне. Вялікую аўдыторыю сабралі афганцы ў Горках, дзе намаганнем мясцовых улад і банка прайшоў вечар, на якім выступілі артысты.

## Барадуліну — 60!

Урачыстасці ў гонар 60-годдзя Рыгора Барадуліна прайшлі ў родным Прыдзвінні. Спачатку яго сардэчна віншавалі аматары паэзіі і грамадскасць Віцебска, а затым паэтычныя вечарыны і сустрэчы адбыліся ў старажытным Полацку і на роднай Ушаччыне.

## Жудасны вынік аварыі

Усяго адна акруга будзе на наступных выбарах у Вярхоўны Савет у Чачэрскім і Кармянскім раёнах. У мінулым скліканні кожны раён меў свайго выбранніка ў ВС. Змены адбыліся з прычыны выбыцця большасці насельніцтва радыяцыйна забруджаных раёнаў у чыстую мясцовасць. Дарэчы, на Гомельшчыне гэта не адзін выпадак.

## Бедныя заказчыкі

Толькі апрацоўшчыкі засталіся зараз пры справе ў аб'яднанні „Брэстжылбуд”. Яны працуюць пакуль на зманціраваных раней аб'ектах, а ўвесь астатні калектыў пайшоў на канікулы да сярэдзіны сакавіка. Паралізавалі ж дзейнасць гэтай не так даўно квітнеючай арганізацыі, якая практычна пабудавала ўвесь новы Брэст, пазыкі заказчыкаў, якія пастаянна растуць. Зараз яны ўжо перавышаюць 8 млрд. рублёў.

## Замест кармоў спірт

Практычна спыніў выпуск прадукцыі неабходнай у жывёлагадоўлі Мазырскі завод кармавых дражджэй. А жыве прадпрыемства пакуль за кошт вырабу спірту высокай ачысткі, які пастаўляюць для фармацэўтычных і лікёра-гарэлачных прадпрыемстваў.

## З ДРУКУ

**У гэтым годзе ўрад суседняй Польшчы плануе выдаткаваць на падтрымку польскай дыяспары ў Беларусі суму, эквівалентную шасці мільёнам долараў — пачуў я па радыё. А ці можа Беларусь пахваліцца падобным клопатам аб сваіх суайчынніках за мяжой? Як увогуле адбываецца падтрымка беларусаў замежжа і які яе плён?**

**Аб адным з аспектаў гэтай праблемы я даведаўся ад Аляксандра Сасновіча — галоўнага спецыяліста ўпраўлення навучальных і навучальна-даследчых устаноў Міністэрства адукацыі. Падчас гутаркі я пачуў ад свайго суразмоўцы наступнае:**

# Ці апалячаць беластоцкіх беларусаў?

*(Прызнанні беларускага місіянера)*

— Перакананы, што сваю нацыянальную прыналежнасць чалавеку дазваляе не толькі мова ці месца жыхарства, але і культурная спадчына, песні, музычны фальклор. Адсюль — мая зацікаўленасць беларускай народнай музыкай. Адсюль і разуменне неабходнасці яе адраджэння ў асяроддзі этнічных беларусаў, незалежна ад таго, дзе яны жывуць. Тым больш, што тут, у Беларусі, фальклор захаваўся ў сваім першасным, аўтэнтычным выглядзе, чаго не скажаш, прыкладам, пра фальклор Беласточчыны на тэрыторыі Польшчы, стан захавання якога значна пагоршыўся, паколькі занепадае родная мова і нацыянальная свядомасць тамтэйшых беларусаў, — у значнай меры па віне былога ўрада БССР. У выніку нармальнай з'явай на Беласточчыне стала тое, што ў конкурсе беларускай песні, які адбываецца штогод, удзельнічаюць дзеці, якія спяваюць з паперкі беларускія песні, запісаныя лацінскім алфавітам. Мовай беларусаў Польшчы, за выключэннем актывістаў розных арганізацый, робіцца польска-беларуска-расійска-ўкраінская трасянка...

Калі гаварыць менавіта пра адукацыю польскіх беларусаў, дык яна зведзена да мінімум прадметаў, якія вывучаюцца на роднай мове. Навучальныя ўстановы — пачатковыя школы, даюць магчымасць вывучаць мову толькі факультатыўна, па жаданні навучэнцаў і іх бацькоў. Што да ліцэяў у Гайнаўцы і ў Бельску, дык беларускімі яны называюцца па традыцыі; афіцыйная іх назва — ліцэі з беларускай мовай навучання. Але ж больш слушна было б сказаць — з вывучэннем беларускай мовы, бо яна там гучыць выключна на ўроках. Месца ў праграме яна займае прыблізна столькі ж, колькі і расійская, на якой выкладаецца Закон Божы. Выкладанне ж усіх астатніх прадметаў вядзецца на польскай мове. Па-польску гавораць між сабой амаль усе вучні і настаўнікі.

**— Але ж існуе і нейкае грамадскае жыццё?**

— Так, цяпер у Польшчы існуе шмат беларускіх арганізацый: студэнцкія, культурніцкія, палітычныя... Польскі ўрад аказвае ім дапамогу, але раней яна канцэнтравалася ў руках адзінага Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), а цяпер дзеліцца паміж усімі. І, зразумела, гэтых сродкаў не хапае. І вынікам гэтага стаў паступовы заняпад нацыянальнага жыцця польскіх беларусаў. Паступова яно зводзіцца да правядзення асобных мерапрыемстваў: фестывалю беларускай песні ў Беластоку і гмінных фэстынаў, якія папярэднічаюць яму, — іх ладзіць БГКТ, „Басовішча" — рок-фестывалю Беларускага аб'яднання студэнтаў, ды яшчэ некалькіх драбнейшых акцый.

Але ж вядома, што менавіта фальклор захоўвае і свядомасць, і традыцыйную лексіку, і спосаб маўлення. Мая асабістая зацікаўленасць народнай музыкай і службовыя сувязі з суайчыннікамі замежжа і далі пачатак падзеям, пра якія пойдзе размова...

Увесну 1992 года адбылася мая сустрэча з прадстаўніком польскага БГКТ Віктарам Стахвюком. Навучальнымі ўстановамі культуры і мастацтва я займаўся ўжо тады і таму пацікавіўся, як ідуць справы на Беласточчыне. У адказ прагучала: музычная адукацыя развіта слаба — на гэта нестае сродкаў, дорага каштуюць інструменты, няма людзей, якія маглі б весці выкладанне па-беларуску. А патрэба ў гэтым ёсць. І ўзнікла ідэя: прадстаўнікам БГКТ дамовіцца з польскімі ўладамі аб стварэнні штатных месцаў настаўнікаў, на якіх працавалі б выкладчыкі з Беларусі. Да верасня 1992 года — пачатку новага навучальнага года — мы меркавалі ўсё наладзіць.

Я сустрэўся з міністрам, з тымі людзьмі ў міністэрстве, ад якіх залежыць арганізацыя і фінансаванне гэтай справы. Было вырашана закупіць музычныя інструменты для беларускіх школ Польшчы і камандзіраваць туды нашых настаўнікаў. Міністэрства набыло 12 цымбалаў, 12 баянаў і акардэонаў, 9 піяніна — і гэта толькі напачатку. Але надышоў верасень, потым кастрычнік і лістапад, але ніякіх звестак з Беластока мы не мелі.

Тады я патэлефанаваў Стахвюку і пачуў: у беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім усё вырашана, можна прыязджаць, каб заключыць адпаведнае пагадненне. Быў прызначаны дзень, але, прыехаўшы ў Бельск, я пачуў: дырэктар ліцэя ні аб чым не ведае. Беларускай школе пры ліцэі выкладчыкі музыкі непатрэбныя, ліцэю — таксама. Я апынуўся ў няёмкім становішчы: інструменты падрыхтаваныя, але ўсё, што мы чулі падчас перамоваў з такой сур'ёзнай арганізацыяй як БГКТ, аказалася фікцыяй. З гэтымі навінамі мне трэба было ехаць у Менск. Ужо потым высветлілася: у БГКТ адбыліся перавыбары, і Стахвюк там ужо не працуе, а новае кіраўніцтва арганізацыі ні аб чым не ведае — скардзіцца няма на каго.

Трэба падзякаваць людзям, якія мне тады дапамаглі, — і маім знаёмым у мястэчку Орля, у якіх я і пасяліўся (бо ж Таварыства мяне не чакала, а з нашых камандзіровачных пакой у гатэлі не аплаціш), і мясцовым актывістам беларускай Рады, якія адразу ж выйшлі на войта гміны Орля. У выніку менавіта ён вырашыў усе праблемы: дамовіўся са школай аб прыёме на працу выкладчыка музыкі і падшукаў для яго кватэру. (...)

**— Што, на Ваш погляд, стала прычынай сітуацыі, пры якой у Польшчы, нягледзячы на існаванне беларускіх школ і ліцэяў, беларускага друку і радыёпраграм, музея ў Гайнаўцы, працягваецца заняпад мовы?**

— Я нідзе і ніколі не чуў, каб нехта з прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Беласточчыны займаўся пытаннямі адукацыі. Сродкі — большыя і меншыя — даюць ім урады Польшчы і Беларусі, але на што яны ідуць? Так, Гайнаўскі музей, які будаваўся так доўга, патрэбны. Але ці патрэбна будзе захаванне памяці аб беларусах Польшчы, калі самі яны перастануць існаваць як народ? А сітуацыя цяпер менавіта такая. Хто захоча і зможа змяніць яе? На справаздачным сходзе БГКТ я пачуў, што змяншаецца колькасць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову. Але ж ніхто не сказаў, чым, акрамя слоў аб неабходнасці вывучэння мовы, падтрымліваецца ў іх беларушчына! Бо навошта патрэбна мова, не падмацаваная культурнай спадчынай — каб адзін дзень у годзе, падчас правядзення ў гміне беларускага фэсту, пагаварыць па-беларуску?

Тое, ці могуць і хочуць беларускія арганізацыі Беласточчыны скарыстаць падтрымку свайго і нашага ўрада — гэта толькі іх праблема. Але існуе яшчэ адзін аспект іхняга жыцця: існаванне беларускай дзяржавы, яе аўтарытэт...

Мне давялося жыць і працаваць не з актывістамі нацыянальных арганізацый, а са звычайнымі людзьмі. Дык вось, для іх мы — грамадзяне Беларусі — па-ранейшаму застаёмся рускімі. І калі я называў сябе беларусам, тыя людзі часцей проста махалі рукой. Бо яны не ведаюць Беларусі — дзяржавы беларускага народа, краіны з самастойнай палітыкай. Думаю, што менавіта гэта — комплекс нацыянальнай ніжэйшасці, адчуванне сябе прадстаўнікамі народа без дзяржавы і ёсць прычына асіміляцыі польскіх беларусаў, слабасці іхніх арганізацый, абыякавасці іх да ўласнай культуры і мовы.

**— Польшча — дэмакратычная краіна. А дэмакратыя — улада народа — азначае абарону інтарэсаў большасці, у дадзеным выпадку — нацыянальнай. Ці не гэта, а не слабасць беларускіх арганізацый або адсутнасць іх падтрымкі намі стала прычынай паступовай асіміляцыі беларусаў Беласточчыны?**

— Асіміляцыя меншасці — натуральны працэс у кожнай краіне. І не варта абмяркоўваць нацыянальную палітыку польскіх улад, наадварот, магчыма, калі-небудзь яна паслужыць для нас прыкладам. (...)

**Запісаў**
**У. Панада**
*(„Наша слова" н-р 6 ад 8 лютага 1995 г.)*

# БЕЛАСТОЦКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Не мінуў яшчэ год з таго часу, калі лідэр беластоцкай „Салідарнасці" Ю. Мазалеўскі на мітынгу 11 сакавіка 1994 г. пры вул. Сураскай 1 заявіў, што беларускія журналісты з „Нівы" мелі намер знішчыць прафсаюз, які налічвае 1,5 мільёна членаў, а ўжо ўзнік чарговы беластоцкі скандал.

Пачаўся ён малаважнай праблемай з арэнднай платай за будынак, які займае БГКТ. Пакідаючы збоку сэнс справы, улады горада ўзяліся вырашаць гістарычныя і палітычныя пытанні, звязаныя з прысутнасцю беларусаў у Беластоку. На прэс-канферэнцыі для журналістаў, якую склікалі кіраўнікі Гарадской рады — Я. Хайноўскі, В. Паўлоўскі і Бляхарчык — заявілі яны, што на беларускую культуру з камунальнай касы былі выдаткаваны ў 1994 г. сотні мільёнаў злотаў. Пасля аказалася, што не сотні, а толькі 30 мільёнаў, і што гэтая сума складае каля 0,002 працэнта ўсіх выдаткаў горада на культуру. Намеснік старшыні Рады Вальдэмар Паўлоўскі выказаў прытым падазрэнне, што ўвесь скандал вакол будынка пры вул. Варшаўскай 11 выклікалі нейкія цёмныя сілы, каб перашкодзіць Польшчы ўвайсці ў структуры Паўночнаатлантычнага дагавору.

Ведаючы Яна Сычэўскага і яго асаблівую пашану для кожнай улады, я перакананы, што не таму ён не плаціў чыншу два гады, каб парушыць давер да Польшчы яе заходніх саюзнікаў. Праўдападобна кіраваўся ён чыста меркантыльнымі калькуляцыямі.

Найбольш здзіўляе аднак тое, што справа беларускага фольк-клуба давяла — як гэта акрэсліў публіцыст „Кур'ера Паранняга" Казімеж Расінскі — да балканізацыі настрояў у Беластоку. Адначасова адкрылася сумная праўда, што мясцовыя ўлады зусім не арыентуюцца ў асноўных прынцыпах нацыянальнай палітыкі. З заяў прэзідэнта Беластока Анджэя Люсы і выказванняў старшыні Рады Яна Хайноўскага магло скласціся ўражанне, што ўпершыню яны сустрэліся з гэтай праблемай. Замест высвятлення сваёй пазіцыі і спакойнай дыскусіі прадэманстравалі яны нервовыя жэсты і кінуліся ў істэрыю. Ліст прэзідэнта Люсы надрукаваны ў „Рэчыпаспалітай" (н-р 38) паказаў, да якога ўзроўню зышла беластоцкая палітыка. Сіндром Казя Семянякі зноў пачаў ствараць згушчаную атмасферу на Беласточчыне. Гэтым разам аднак усё адбываецца пры непасрэдным удзеле лакальнай улады.

Ліст прэзідэнта Беластока не астаўся без уплыву на звычайных людзей. Яго змест парушыў нават тых беларусаў, якія абыякава ставіліся да ўсялякіх нацыянальных праблемаў Беласточчыны. З другога боку шмат палякаў паверыла словам Люсы і ўсім яго абсурдным абвінавачанням беларусаў. Некалькі беластоцкіх „патрыётаў" пачало наступнага дня даволі рэгулярна званіць у рэдакцыю „Нівы" і „Czasopisa". Адзін абзываў „kacapskimi pomiotami", другі пасылаў нас у Маскву, трэці пагражаў вырашыць беларускія праблемы пры дапамозе гранатаў. Вядома, што гэта нейкія экстрэмісты, але такія найчасцей пачынаюць авантуры, якіх пасля ніхто не ў змозе кантраляваць. Таму зусім невядома дзеля якіх мэтаў выклікаюцца тут час ад часу прывіды глыбокай мінуўшчыны. Не бачу ў гэтым ніякага сэнсу, ніякага інтарэсу ні для польскага, ні для беларускага грамадства Беласточчыны.

**Яўген Мірановіч**

# Бурмістр застаўся

Скончацца — прынамсі на нейкі час — спекуляцыі наконт адклікання бурмістра Бельска-Падляшскага. На XI сесіі Гарадской рады, 17 лютага, па прапанове апазіцыйнага каталіцка-правага клуба „Jedność", адбылося галасаванне. За адкліканнем прагаласавалі 7 радных, адзін устрымаўся і 18 былі супраць. Цікава тое, што ў гэты дзень прысутнічалі толькі 16 радных з Бельскай кааліцыі. Значыць, прынамсі дзве асобы ад апазіцыі падтрымалі Андрэя Сцепанюка. Прамаўляючы ад імя апазіцыі, радны Шмурло заявіў, што ў святле законаў бурмістру ніякіх закідаў паставіць нельга. Застаецца толькі пытанне, ці звальненне працаўнікоў было маральным учынкам (пра гэтую справу ў „Ніве" мы пісалі, і то не аднойчы).

Што была гэта дэманстрацыя пэўнай пазіцыі, пазбаўленая заядласці, сведчыла атмасфера падчас цэлай сесіі. Была яна добрая. Як радныя, так і старшыня, дазвалялі сабе на жарты і, здаецца, ніхто не крыўдаваў. Так было, калі абмяркоўваўся падатак ад аўтамашын. Адзін з радных запрапанаваў, каб зраўняць аплаты за „Паланезы" з матацыкламі аб'ёмам у 1 500 і 1 600 кубічных сантыметраў. На гэта астатнія адказалі рогатам, маўляў, бароніць свой інтарэс, і прагаласавалі супраць. Аўтар прапановы не пакрыўдзіўся. Меншыя — на 30% — падаткі будуць плаціць уласнікі машын з каталізатарамі.

У далейшым Гарадская рада Бельска канцэнтравалася на сабе, г.зн. прыняла план працы на 1995 год і навяла касметычныя змены ў камісіях. З фінансавай камісіі была адклікана Галена Бушко — цяпер гарадскі скарбнік, — а на яе месца прызначаны быў Ян Кандрацюк, які адначасова адмовіўся ад членства ў Камісіі правапарадку. Камісія прамоцыі гаспадарчага развіцця горада і беспрацоўя змяніла назву на: Камісія прамоцыі гаспадарчага развіцця горада і супрацьстаўлення беспрацоўю.

У наглядную раду бельскай службы аховы здароўя выбраны быў доктар Ян Гушч (ён жа радны). А членамі Калегіі па справах правапарушэнняў Рада прызначыла: Іаланту Сарокін-Федарук, Здзіслава Кавальчыка, Паўла Лемеша, Станіслава Марчука і Уладзіміра Яканюка.

Пра непрыемную справу ўспомніў радны Талвінскі, ужо пад сам канец сесіі, у розным. Нехта павыбіваў вітражы ў капліччы каля паслякармеліцкага касцёла. Гэта ўжо другі акт вандалізму на гэтым аб'екце, казаў ён. Нядаўна чырвонай фарбай была абліта скульптура Божай Маці. Бурмістр і старшыня Рады забавязаліся ў адкрытым пісьме асудзіць такога тыпу хуліганскія дзеянні. А Гарадская ўправа часткова пакрые кошт рамонту аб'екту.

І ўжо на сам канец радныя вырашылі застрахавацца ад нешчаслівых здарэнняў у час сесіяў. Хто яго ведае, што нас чакае ў будучыні.

**М. В.**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 422*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*ВІКТАР ШВЕД*

**На сваё сямідзесяцігоддзе**

Ідуць гады, бягуць гады
І паўстрымаць іх немагчыма.
На жаль я ўжо не малады,
Багаж вялікі за плячыма.

Здаецца, што нядаўна так
Малым быў, корпаўся ў пясочку,
Не ведаў, што сіл будзе брак
І старасць падапру кіёчкам.

Тут, братка, як не гавары,
Жыццё амаль што пражылося.
Я станаўлюся ўжо стары,
Мая загасцявала восень.

Так вокамгненна мчаць гады
А я ж, паверце, не здаюся.
Яшчэ ж я сэрцам малады,
Як воблік роднай Беларусі.



*Паэт-юбіляр у беластоцкім парку.*

*ВІКТАР ШВЕД*

## Як я не стаў мастаком

*(Апавяданні з маёй маладосці)* *

У верасні 1940 года быў я ўжо вучнем шостага класа беларускай дзесяцігодкі ў Орлі. Па-за школьнай праграмай праводзілася тут інтэнсіўная агітацыя за савецкую ўладу, за ўдзел моладзі ў піянерскай арганізацыі і камсамоле. Агітацыя трапляла ў сэрцы вучняў. Пераконваючым для мяне быў хаця б той факт, што ў даваеннай Польшчы я, вясковы хлапчук беларускай нацыянальнасці, не мог нават марыць аб сярэдняй адукацыі, а тут раптам адчыніліся мне насцеж дзверы дзесяцігодкі.

На працягу папярэдняга навучальнага года, калі быў вучнем пятага класа, я настолькі вывучыў беларускую літаратурную мову, што пачаў пісаць на гэтай мове вершы. Са сшыткам вершаў школа скіравала мяне на алімпіяду дзіцячай творчасці, што адбывалася ў Бельску-Падляшскім. Разам са мной паехаў туды мой аднавяскоўвец — Кірыла Філіманюк, пачынаючы мастак, які ўжо маляваў алейнымі фарбамі на палатне. Павёз ён на алімпіяду сваю прыгожую карціну — палескі краявід з ласём на фоне вадзяной прасторы. Знаходзячыся ў той час пад вялізным уплывам майго аднавяскоўца, які навучыў мяне наносіць сетку на нейкі малюнак ці партрэт з мэтай яго шматразовага павелічэння. У школе выявілася, што меў я мастацкія здольнасці, з рысавання заўсёды атрымліваў пяцёркі. Вельмі мне хацелася стаць у будучым мастаком. Захаплялі мяне асабліва партрэты. На падставе малой фотакарткі я даволі ўдала нарысаваў партрэты сваіх бабулі і дзядулі.

Аднойчы трапіла мне ў рукі газета *Правда* з вялікімі партрэтамі членаў Палітбюро Цэнтральнага Камітэта ВКП(б). Я такіх партрэтаў у сваім жыцці ніколі не бачыў. Усе асобы на іх былі прыгожа апрануты, з поўнымі, акуратна паголенымі каменнымі тварамі. На першым месцы быў партрэт Сталіна. Вельмі мне хацелася нарысаваць усіх прадстаўнікоў савецкай улады. Пачаў я здзяйсняць свой задуму. Удалося на пачатак раздабыць шмат аркушаў рысавальнай паперы. Падчас зімовых канікул узяўся я салідна за працу і неўзабаве аформіў правадыра народаў і ўсіх яго *саратнікаў*. Гатовымі партрэтамі заклеіў сцяну ў бацькоўскай хаце, любуючыся сваім мастацкім дасягненнем.

Неўзабаве здарылася нешта такое, што ўшчэнт разбіла мае мастацкія планы.

Дасканала запамяталася прыгожая верасня́ўская раніца 1940 года. Карыстаючыся вольным ад школьных заняткаў днём, я вырашыў дапамагчы ў рабоце свайму кульгаваму бацьку. Запланавалі ў хаце вывозіць за вёску гной пад асеннюю сяўбу. А вёска Мора немалая, даўжыня яе вуліцы звыш кіламетра. Загрузілі мы воз гноем і наша старая кабылка ледзь пацягнула яго ў поле. Толькі я паспеў выехаць з вёскі, як падкаціла раптам да мяне адваконная двухколка. Сышоў з яе жываты, нізкага росту, смуглявы мужчына ва ўніформе савецкага афіцэра. Як неўзабаве я даведаўся, быў гэта Лейкін, дырэктар кафлянага завода ў Орлі, а адначасна савецкі палітрук, экзекутар абавязковых паставак ад сялян. Да вайны ў Орлі працавала прыватная кафлярня, якой уласнікам быў Вайнштэйн. І гэтага ж Вайнштэйна саветы вывезлі з сям'ёю ў глыб Расеі, а на яго месца дырэктарам новаўтворанага кафлянага завода ў Орлі назначылі прывезенага з Расеі Лейкіна.

І вось гэты Лейкін затрымаў мяне з фурай гною на дарозе і запытаў: *А ты чей будешь?* Я адказаў: *Шведаў. — Тебе не навоз возить, сначала молотить надо, а потом сеять. Я вот к вам молотить еду. Возвращайся домой.* І як я не прасіўся, павярнуў ён маю кабылку назад дахаты. У вёсцы пачаўся рух. Лейкін прыгнаў да нас на панадворак бацьку майго школьнага сябра Кірылы — Несцера Філіманюка з маторам і малацілкай. Неўзабаве прыехалі грузавіком чырвонаармейцы з Орлі. Пачалася малацьба. Змалацілі ўсе жытнёвыя снапы з клуні, звязлі збожжа, усыпалі яго ў прывезеныя мяшкі і загрузілі на грузавік. І як не прасіла з плачам мая бедная мама, стоячы перад Лейкіным на каленях, каб пакінуў хоць адзін мяшочак жыта на хлеб — Лейкін быў няўступлівы, адпіхнуў маці нагой, сцвярджаючы: *Вы, проклятое кулачьё, не подохнете, у вас есть ещё свои запасы.* Грузавік са збожжам і чырвонаармейцамі ад'ехаў у Орлю. За ім пакаціў Лейкін на сваёй аднаконнай двухколцы.

Доўга яшчэ на панадворку стаяла нерухома мая мама і горка плакала. Вярнуўшыся дахаты, глянула са злосцю на насценнае савецкае палітбюро і са словамі: *То такіе вы вызволіцелі!?* пачала на маіх вачах зрываць і таптаць маё першае мастацкае дасягненне. Я стаяў побач і, таксама, горка плакаў. Калі мая мама апынулася ў такой роспачы — гэта доказ, што спасцігнула нас вялікае сямейнае няшчасце. Мы не падохлі, толькі засталіся без хлеба. Усю зіму елі гарохавыя праснакі. Рысавальнага алоўка я ўжо больш не ўзяў у рукі, а даўкі смак гарохавай мукі адчуваю ў вуснах па сёння.

---

* *Пачынаем друк цыкла „Апавяданні з маёй маладосці”.*

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## У вечнай пагоні

Віктару Шведу — семдзесят! Ён толькі на дваццаць гадоў маладзейшы ад наважытнай беларускай нацыі. Магчыма, у яго роднай ваколіцы жылі чытачы *Нашай нівы*? Недалёка бацькоўскага Мора, менавіта ў Стараберазове разганялі пілсудчыкі павятовы з'езд Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, аб чым Віктар наслухаўся пасля, у сваё дзяцінства і маладосць. Грамада не была даўгавечнай, мільганула маланкаю на беларускім гарызонце, але загрымела перуном, абуджаючы народ з векавога сну.

У неспакойным краявідзе з такімі ў ім падзеямі, блізкімі па часе, адораны талентам Віктар Швед не мог не быць нацыянальным песняром. Справа ў тым, што беларусы прыпазніліся ў гістарычным развіцці, іх хапалі за рукі і падстаўлялі нагу суседзі ў міжнародным бегу да самастойнасці. Мы і сёння ўсё яшчэ дабягаем да мэты, калі іншыя, тым часам, паспелі нават забыцца пра тыя выпадкі з пачатку стагоддзя. Гэта таму жывем у несціханай трывозе за будучыню матчынае мовы і кроўнае нам культуры.

У такой сітуацыі паэт беларускага слова не мае маральнага права цалкам канцэнтравацца на мастацкасці; мусіць быць і змагаром. Кажуць: не пара даглядаць агарод, калі гарыць дом! Сказана без перабольшання, бо на літаратурную долю Віктара выпала наступная бяда, драма рапто́ўнага знікнення сялянства як першаасновы ўсякае этнічнасці. Гэта праўда, што малазямельная і перанаселеная вёска ўяўляе сабою рэлікт мінулага феадалізму і падлягае рэдукцыі шляхам дыктату эканамічнага рахунку. Але ў нас адбылося тое спешным парадкам нейкае эвакуацыі, замест натуральнага пераходу вяскоўцаў у прамысловыя гарады на працягу цэлых пакаленняў, што шчасліва мела месца на захадзе Еўропы. Не заставалася часу на грунтоўнае пашырэнне беларускай нацыянальнай ідэалогіі. У фабрычных цэхах і на гарадскіх тратуарах апынуліся дзеці і ўнукі паншчынных халопаў, жывы стэрэатып беларуса-мужыка, без усталяванай асабістай дастойнасці, без пачуцця ўласнае вартасці, або і з комплексам *хварэючых на пана*.

Падвойная смерць: сацыяльная і нацыянальная. Віктар Швед са сваімі зборнікамі вершаў апынуўся ў трагічнай ролі барда ўтопіі беларускага патрыятызму. Кіруе свой душэўны боль да людзей, у якіх менталітэт уцякацкіх мігрантаў. Яны са слязамі на вачах слухаюць Віктаравыя рыфмаваныя адозвы, але дзяцей сваіх усё роўна пагадуюць на небеларусаў. Логіка хлеба няўмольная. Вульгарная. Нацыянальнасць ім — гэта фанабэрыя тых, у каго грошы, белахлебная скіба з маслам і шынкаю. Інстынкт праўды не падманвае: беднаму або багацеючаму не культура ў галаве.

Семдзесят гадоў актыўна пажыць — зайздросны адрэзак часу. У асобе Віктара Шведа, у яго лёсе, як у той чароўнай шкляной кулі, бачым перш за ўсё пасляваенныя перыпетыі польскіх беларусаў. Смутныя ўсё ж. Зрабіўшы круг тыповай тады кар'еры дзяржаўнага служкі, няма вось куды цяпер вяртацца: айчына травой зарастае. Шматтысячнымі тыражамі разышліся ў народзе кніжачкі паэта, амаль у кожнай сям'і тут упаткаеш хоць адну, але, аказваецца, гэта без істотнага значэння ў выратаванні нацыі. Усе мы, *белавежцы*, набліжаемся да сутнасці мінскага анекдота: *Слыхал, говорят, белорусский писатель получит Нобелевскую премию! Разве есть в нашей Белоруссии какой то белорусский писатель? Странно! Кому же он пишет?!*

Змагарнасць у Віктара Шведа, дэкларацыі тыпу *Я — беларус!*, на шчасце не дамінуюць ягонай таленавітасці. Майстэрства дасягае Віктар у дзіцячай паэзіі, на якую здольныя ўсяго некаторыя; асобны гатунак Божага дару. Гэтая адметнасць у яго прагледжваецца ад дэбютанцкіх радкоў. У Віктаравай існасці пасяліліся як быццам два паэты. Першым залез у яго душу натхнёны менавіта пясняр прападаючага свету, з па-фальклорнаму зразумелымі метафарамі, са словамі, што самі кладуцца ў нескладаную мелодыю, лёгка запамінаюцца. Затым аб'явілася Віктару лірыка маленькага чалавечка, якому ўсенька небанальная першына — маміна фраза, чайнік на пліце, кот на ляжайцы, певень на плоце, матацыкл на вуліцы, самалёт у небе...

Разам з пасяленнем у сябе другога таго паэта Віктар Швед судакрануўся творчай несмяротнасці. Патрэбны і той пры гэтым пачынальнік, сентыментальны валакіта на гасцінцы ў горад, якому нерэальна мроіцца былы бацькоўскі парог. Усё роўна што Віктараву калегу па пяры жадаецца басаногае вырыва ў вясеннюм полі; пэўна, нямала здзіўляла гэта мешчанючага чытача, якога абліваe халодны пот ад нялёгкадумнага ўспаміну клятае нібы-ідыліі прыроды з чалавекам. Адзін расійскі класік заўважыў, што земляробу кветка, валошка-васілёк, не болей як дакучнае пустазелле. Нішто не раўняецца аратаю з прыгажосцю скрыгля сала на тоўстай лусцэ ад бохана. Чытаў я сацыялагічны нарыс аб тым, як падаў попыт на чорны — здаровы! — хлеб у Беластоку ў адпаведнасці з ростам перавагі ў ім насельніцтва з гмінаў. Хамуцкі культ беласці: белая ручка, белы тварык, белы хлябок, белы сыр, белая кашуля... А цяпер белыя шкарпэткі. У кожнай эпохі свая трагіка-камедыя, не большая і меншая (за яе).

Віктар Швед глядзіць на гэты простанародны цырк клоўнаў лепшасці з невымоўнай засмучанасцю. Меланхалічна. Занадта інтэлігентна, каб не прыкмячаць безнадзейны канец. Беларускі сцяг лунае не далей Бельска і Гарадка; яго згортваюць ды хаваюць за пазуху ўжо на мястэчковых прадмесцях Вялікабеластока. Чаму? Хлеба бракуе? Не, ужо не хлеба, а годнасці. Мужык калісьці ненавідзеў пана, але даволі абы-аказіі яму, каб надзьмуцца на яшчэ лепшага пана. Ну, што пра такога казаць? Мала сказаць: дурань!..

Паэзія — вечная пагоня. Донкіхотны Віктар з сумленным мячом справядлівасці. Самазванны народны абаронца, якога не клікала аніякае веча. Наадварот — перашкаджае таму ж народу перастаць быць сабою. Што чыніць з такім тыпам? Атруціць? Судзіць? Павесіць? Э, нашто рукі пэцкаць — найпрасцей забыцца на яго. Ды ён, у сваё сямідзесяцігоддзе ...*сэрцам малады, Як воблік роднай Беларусі.* Ох, Віктар ты Швед! Выяўляеш сабою чарговае, вартае памяці, адкрыццё: асіміляваныя тэрыторы надоўга пераўтвараюцца ў бясплодную культурную пустыню. Што выбітнейшае за Янчука дало спаланізаванае паўднёвае Падляшша? Які небеларускамоўны геній аб'явіўся ў зарасіянелай дашчэнту Беларусі? Ці народзіцца роўны Віктару польскамоўны вершапісец у палячэючым Моры? Праваслаўны паляк як новы падгатунак шызафрэніі?..

Ніколі не бывае настолькі блага, каб не было магчымым куды горшае. Віктар Швед не здаецца ў сваё семдзесят, дык чаму я павінен здацца ў шэсцьдзесят, або Надзя ў пяцьдзесят. Або нехта ў сорак, у трыццаць, у васемнаццаць урэшце. Утвараем непарыўны ланцуг. Літаратура, як і культура наогул, не існуе па-за чалавекам, а чалавек па-за нацыяй. Або нацыянальная яна, або яе няма.

Часамі толькі падумаецца не вельмі сур'ёзна: чаму Бог так карае нас?! Прэтэнзіі, аднак, не да Бога, а да сябе!

# Зорка
## Старонка для дзяцей

# Таленавітыя вучні з Махнатага

„Зорка" нядаўна наведала школу ў Махнатым. Там мела яна гонар пазнаёміцца з цікавымі дзецьмі і моладдзю. Так, незвычайна ў іхняй школе цікавяцца тэатральнай сцэнай, дэкламуюць і, на дадатак, вельмі добра вучацца.

Самы сталы, сур'ёзны восьмы клас вылучыў ажно 5 кандыдатаў да прадметнага конкурсу. Былі гэта: Альжбета Трашчотка, Віктар Кірылюк, Івона Калішук, Юстына Галёнка і Тамаш Кучко. У раённым конкурсе апынулася, на жаль, толькі Эля Трашчотка. Але ўсе мае новыя сябры будуць прадаўжаць навучанне беларускай мовы. Усе хочуць паступіць у гайнаўскі ліцэй з беларускай мовай навучання. Там будуць яны мець магчымасць дабіцца нават да цэнтральнай алімпіяды беларускай мовы.

У сёмым класе працуе тэатральная група. Зараз назаву ўсіх сімпатычных сямікласнікаў. Гэта: Гося Кучко, Ася Трашчотка, Паўлік Куптэль, Адась Харытанюк, Юрка Каліноўскі, Пятрусь Германовіч, Юрка Семянюк, Пятрусь Макац, Павел Макац і Вітак Петручук. Цікавы калектыў — праўда? Як жа ж тут іграць п'есу, дзе выступае многа жанчын? Ці думаеце, як і я, што выконваюць яны толькі творы з мужчынскімі ролямі. На шчасце ў калектыве дзве дзяўчынкі і ролю каралевы ўжо хлопцам іграць не прыйдзецца.

Вучні з Махнатага маюць прыгожую залу. Самі яе ўпрыгожвалі. Зразумела, што памагала ім іхняя настаўніца беларускай мовы Анна Гаўрылюк.



*Дырэктар школы Ірэна Грыгарук з вучнямі сёмага класа.*

**Пані дырэктар**

Спадарыня Ірэна Грыгарук настаўніцай працуе трэці год. З верасня 1994 г. яна дырэктар школы. Сваю настаўніцкую працу лічыць вельмі цікавай. Пад кірункам пані дырэктар працуе шмат людзей.

У Махнатым усяго 86 дзетак. Навучае іх 11 настаўнікаў. Амаль усе выпускнікі школы ідуць вучыцца ў гайнаўскі Беларускі ліцэй.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Настаўніца беларускай мовы Анна Гаўрылюк.*



*Васьмікласнікі — удзельнікі прадметнага конкурсу.*

## Для самых маленькіх

### Мухамор

На світанні, на зары
У зялёным гушчары,
Дзе мох сцелецца рабы,
Паспрачаліся грыбы.

На ўвесь лес — зялёны бор
Расхваліўся Мухамор,
Што пад шапкай — маку цвет —
Ён дзяцюк на цэлы свет.

Боты, гузікі гараць, —
Яму пары не дабраць
Пад ялінай, пад сасной
Ні багаццем, ні красой.

Мог бы смела быць паслом
Або нават і царом —
Не сядзець век у траве
Ды разумнай галаве!..

— Ты хваліцца лепей кінь! —
Яму радзілі Рыжкі, —
Плёткі чуючы твае,
Падасінавік злуе.

На чырвоны твой язык
Скасурыўся Чашчавік.
Табе ўсыплюць пад бакі
Калі-небудзь Казлякі...

— Мне начхаць на вас, на бор! —
Горда кажа Мухамор, —
Калі біцца — паглядзім,
Хто паставіць на сваім!

А, залёгшы у траве,
Ўсё падслухаў Муравей;
Там, дзе мох і Дзераза,
Сыраежцы расказаў.

Ды ў зялёным у бары
Гэта чулі Камары,
Яны вестку разняслі
Ўсім Апенькам на зямлі.

А Ваўнянкам у паўдні
Разванілі Авадні
Па дубровах, па лясах,
Па мядовых верасах.

Аж прачнуўся на той крык
Пад яленцам Баравік,
Дзе пад мохам, як парсюк,
Спаў, сагнуўшыся у крук.

І пачаў ён разважаць,
Мудра радзіць і судзіць,
Расшумеўшыся, з-пад траў
Нават галаву падняў...

Дзе мох сцелецца рабы,
Ішлі дзеці па грыбы, —
Асцярожная рука
Падняла Баравіка.

Пайшлі ў кошык Казлякі,
Сыраежкі і Рыжкі...
І на ўвесь зялёны бор
Рагатаў наш Мухамор.

Рагатаў ён і казаў,
Дзе схаваліся між траў
Падасінавік стары,
Дзве Ваўняначкі-сястры...

Як пакінулі ўсе лес
У вячэрняй у імгле,
Шышкай галаву падпёр, —
Затужыў і Мухамор,

Што нявесела яму
Ў цёмным лесе аднаму,
Ў цёмным лесе, у бары
Няма з кім пагаварыць.

Нат смяюцца ў паўдні
З Мухамора Авадні,
А зара як дагарыць,
Усё звоняць Камары.

Ад сасны і да сасны,
Што ёсць грыб такі дурны —
Мухамор, эх, Мухамор!..
Эх, сасновы цёмны бор!

**Максім Танк**

## З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

### Як беларусы называлі сябе і сваю мову ў розныя часы?

Найстарэйшы назоў беларусаў — **крывічы**. Даследчыкі лічаць, што слова гэтае абазначае: кроўны, сваяк па крыві.

У І тысячагоддзі нашыя продкі называлі ўжо сябе **русіны, русь**. Словы гэтыя скандынаўскага паходжання і абазначаюць тых, хто плавае на чаўнах. Пазней гэтае слова абазначала назву зямель, дзе распаўсюдзілася праваслаўнае хрысціянства. Была полацкая Русь, кіеўская Русь. Калі ў XV стагоддзі паявілася Масква, ейную мову называлі **маскоўскаю**, сваю рускай (звярніце ўвагу як называюць цяпер!).

Калі беларусы аб'ядналіся з Літвою ў Вялікім княстве Літоўскім, з часам пачалі сябе называць **ліцьвінамі**, а дзяржаву проста Літвой. Часам называлі беларускую мову — **літоўскарускаю**.

Назва Белая Русь адносілася раней да Уладзімірска-Суздальскай Русі. Пазней найменне **Беларусь** азначала Віцебшчыну, Смаленшчыну, Магілёўшчыну, а з XIX ст. расейскія ўлады сталі называць Беларуссю ўсю краіну. Лідэры адраджэнскага руху ў XX ст. канчаткова выбралі і пачалі шырока распаўсюджваць назву **беларусы, беларуская мова**.

З-ка

*ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА*

### У гушчарах

*Словы Наталлі Арсенневай*

a E a
У гушчарах, затканых імглою,
C G c
Шэрым змрокам, на золку, у зару
C d G c E a
Ахвярусм Табе мы сабою
d E a
Кожны дзень, кожны час, Беларусь. } 2х

І няма ў сэрцы жалю ні жаху
Мы адвагай юнацкай гарым
Не чужыя варожыя сілы
Толькі ты нас вядзеш да зары. } 2х

І мы верым, яна разгарыцца,
Устане зноў над краінаю дзень,
Бо не стане змагар, не скарыцца,
Пад нягодай ніколі, нідзе. } 2х

Хмараў дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, быллём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За Цябе, да Цябе мы ідзём. } 2х

# ДЗЕЦІ З КЛЕНІК

Журы, што ацэньвала 21 студзеня выступленні калядных калектываў у Драгічыне, вельмі прыхільна гаварыла пра калектыў з пачатковай школы ў Кленіках. А чаму? — спытаецца нехта. А таму, што калектыў не толькі падтрымлівае свае родныя традыцыі, але і ўмацоўвае іх, уводзячы ў калядныя песні новае, сучаснае — тое, што нясе жыццё.

Школьны калектыў з Кленік не выступіў ні ў кажухах, ні ў шапках, ні ў хустках — а ў белых кашульках і блузачках, ды чорных штанах і спадніčках. І што галоўнае? — З акампанементам сінтэзатара — наскрозь сучаснага інструмента. Ну, вядома, была і звязда — белая, пушыстая, вялізная на фоне дзяцей. Яе, праўда, дзеці не зрабілі самі, а пазычылі ў аднаго хлопца з Тыневіч, але затое на працягу пару дзён самі асвоілі новы сінтэзатар — навагодні падарунак вучням кленіцкай школы ад фірмы „Фармбэст” з Бельска. Ёсць у іх такі таленавіты хлапчук — Мар’юш Купрыяновіч. Самавук. У чацвер пачаў іграць на новым інструменце (праўда, у хаце мае ўласны, але, вядома, слабейшы), а ў суботу ўжо дзеці паспяхова выступілі на аглядзе калядней песні ў Драгічыне.



Дзіцячым калектывам у Кленіках кіруе настаўніца польскай мовы Людміла Максімюк. У гэтай школе яна працуе ўжо пяты год. Калі быў створаны калектыў? А як толькі яна прыйшла, так усё і пачалося. Вельмі любіць яна спяваць з дзецьмі! Дапамагае ёй настаўніца Вольга Германюк, якая вучыць у школе наймалодшых дзяцей — прадшколле.

У мінулым годзе выступілі на ваяводскім аглядзе калядных калектываў у Чаромсе, а таксама на цэнтральным аглядзе беларускай песні для моладзі ў Бельску — там занялі трэцяе месца ў катэгорыі ансамбляў, хаця паехалі першы раз.

Едучы на сёлетні ваяводскі агляд калядней песні ў Драгічыне, падрыхтавалі некалькі песень. На аглядзе заспявалі тры: „Клікніце, ангелы”, „Дзіўна навіна”, а пасля „Многае лета”. „Клікніце, ангелы” — гэта вельмі старая калядная песня, навучыў іх бацюшка Аляксандр Высоцкі, а пасля ўжо яны рэпетыравалі самі са сваімі настаўніцамі.

Зычым дзеткам з Кленікаў настойлівасці і далейшых поспехаў!

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

## Кантрабанда

Мышка была зусім задаволена святам у доме. Вось пахрысцілі Максімку, добра накармілі гасцей. І мышка ўдосталь наелася, аж стаў больш пукаты яе жывоцік. Эх, не той час цяпер, як тады, калі Пік-Пік выбірала толькі смакоцце, а ў норцы патыкалася аб спляснелыя некранутыя прыпасы (толькі сала ў мышкі не марнавалася ніколі)! Цяпер, калі ўсёй сям’ёй жылі за паўстаўкі мамы ў літаратурным беларускім часопісе, а тату ўжо трэці месяц запар не плацілі грошай у рэдакцыі беларускай газеты, не раз мышцы з татам даводзілася ехаць у вёску да татавых бацькоў, або і адзінока выбірацца на аўтобусе ў вёску з пукам цэлафанавых торбачак падпахай (памятаеце, як Пік-Пік хацела дастаць малако і смятанку ад каровы, а ад свінні... мяса?). А вось Пепіта чула ад пародзістай коткі Пракурора, а той расказваў бясхатні незалежны кот Цімошка, што бывае госцем на першым паверсе ў маладых дзялкоў, што наймаюць там кватэру — яны вось ездзяць амаль штотыдзень у Беласток на кірмаш, і расказвалі, што ў горадзе Беластоку і ва ўсёй Польшчы народ жыве вельмі багата, усе ядуць салодкія булкі, мяса па-кітайску і запіваюць усё гэта мёдам ды ходзяць у замежным адзенні, а ўсё гэта маюць, хаця ніхто не працуе! Вось як жывуць!

— Ого-го! — падумала мышка. — Цікава! Адкуль жа ў іх грошы, каб усё купіць? Без грошай жа ў ніводнай краме нічога не даюць?! Можа, у Польшчы ўсё іначай?.. Пэўна, і мышкам там класна жывецца... Вось зраблю так: з’езджу, пабачу, як справы маюцца. Можа, потым тату ці маму адправім туды на дзеньдва, каб навезлі багацця? Ой, як дома ўцешацца, калі я прывязу долар! Бо, хоць бедна тут у нас у Беларусі, я яе назаўсёды ніколі не пакіну. Я ж свядомая беларуская мышка! Але трэба і крыху свет пабачыць, абцерціся. Вось наведаю і „Зорку”, і школы, адкуль прыходзілі лісты, і іншыя таксама...

Была добрая нагода — цёця Міра заўтра збіралася ехаць дадому. У ейным рукзаку — толькі беларускія кніжкі, зубныя шчотка ды паста, ручнік, фотаапарат, дыктафон. Ніхто не павінен у яе шукаць кантрабанды. Бо афіцыйна Пік-Пік не можа ехаць за мяжу — у яе ж няма не толькі міжнароднага пашпарта, а нават агульнаграмадзянскіх дакументаў!

— У рукзаку месца я займу няшмат, бо хоць я мыш тоўстая, то ў параўнанні з кнігамі — лёгкая. А кніг тых — кілаграмаў дваццаць... — меркавала Пік-Пік. Трэба будзе ўладкавацца зверху, каб дзе чым мяне не прыціснулі...

Веранічку, Пепіту і нават Максімку? Беларусь?! Ну, Пік-Пік! Дарэчы, жывых жывёл нельга перавозіць. Тым больш грызуноў, нават хатніх і, даруй, прыручаных — ёсць такая назва.

— Ну і што, што я — жывы грызун? Маю быць мёртвая? Як мяса, ці як футра? Ну? Ды я ж толькі туды заеду, пабуду сямтам, сёе-тое пабачу, і назад! Хутка!

— Ну і на табе таго мяса і футра, Пік-Пік! Не крыўдуй, даруй, але ніякай кантрабанды не магу везці! Я часта езджу ў Менск, і што будуць пра мяне потым думаць пагранічнікі і мытнікі? Вось едзе тая дама, што везла беларускамоўную мыш без пашпарта?!

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

Падвечар мышка наелася па самыя вушы, каб хапіла на дарогу. Загрузіліся ў аўтобус, які раніцай меў даехаць да Беластока. Добра, што Мірын рукзак дазволілі паставіць у салон, а не ў багажнік. Калі пасажыры ўладкаваліся, шафёр пагасіў святло.

— Усе паснулі, а я не магу... — цяжка ўздыхнула Пік-Пік. — Ай, як есці хочацца, як у маім жываце бурчыць, енчыць і пішчыць! Яшчэ ўсіх пабуджу такімі гукамі. І як тут трасе! Ну й падарожжа!

Мышка разматала завязку багажа, хуценька прабегла па нагах спячых пасажыраў. На нюх акрэсліла, дзе сядзіць Міра — ад усіх пасажыраў пахла цыгарэтамі, каўбасой і яйкамі ўкрутую, а ад яе — мятнай жвачкай, расшпіліла кішэнь джынсоўскі, што ляжала побач на сядзенні. І тут таксама трасло! Пік-Пік узлезла Міры на плячо, уладкавалася каля цёплай шыі, накрылася Мірынымі валасамі і задрамала.

— Што тут так сапе і дыхае мне ў вуха?! — спалохалася Міра. — Вой, гэта ж... мыш!!! Ці тут рап там не Пік-Пік?!

— Але! Толькі, калі ласка, цішэй! Я еду за мяжу без пашпарта! Я — ваш багаж. Еду ў Беласток.

— І ты так кінула маму, тату,

— Ну, калі так справу ставіце... А вы раз везлі папугая, дарэчы, у слоіку, і што? І жывую котку, Стэфку?

— Папугай сядзеў ціха. Не ўмеў размаўляць, тым больш па-беларуску. А ў Стэфкі быў свой пашпарт. Пік-Пік, калі цябе ў мяне знойдуць, то выкінуць нас з аўтобуса разам. А калі цябе адну, аддзельна, то і пакрыўдзіць могуць. Напужаеш мытніц, яны ж жанчыны, мышэй баяцца. Ведаеш, што будзе рабіцца, якія віскі тут пачнуцца? І што, я потым пешшу пайду дадому? А ты ў Менск? Дарэчы, мне бліжэй будзе...

— Хто гэта там мармыча?! Спаць народу не даюць, беларускія псіхі ненармальныя! — узлаваўся па-руску сусед з-заду.

— Ну, праз хвіліну будзем на мяжы. Трэба думаць, што рабіць! — схапілася за галаву Міра.

Аўтобус затрымаўся ў доўгай чарзе перад шлагбаўмам. Пасажыры выйшлі — хто закурыць, хто падыхаць свежым паветрам. Міра і Пік-Пік усё думалі, што рабіць: ехаць адразу назад у Менск, ці наважыцца ісці ў перагляадальную залу, дзе, калі мышку не намацаюць у сумках ці кішэні, убачаць яе на экране, які паказвае рэчы схаваныя ў багажы...

Раптам ля аўтобуса затрымаўся белы „Мерседэс”, які ехаў з супрацьлеглага боку, а з яго энергічна выскачыў спадар Віктар Стахвюк з Беластока. Ехаў па справах у Менск.

— Добры дзень спадарыні Міры альбо і добрая ноч! — бадзёра павітаўся.

— Ой, як добра, што вы ёсць! Дапаможаце пані Пік-Пік вярнуцца дахаты. Вы ж яе ведаеце! — Міра паказала на далоні сонную мышку.

— О, чытаў, чытаў. Прыемна асабіста пазнаёміцца з такой гераіняй.

Пік-Пік працягнула да спадара Стахвюка лапку. Ён заўсёды цалуе дам у руку, і збіраўся як джэнтльмен цмокнуць Пік-Пік у ейную правую лапку, але трошкі збянтэжыўся. Усё ж прыклаў вусны да валасатай канечнасці славутай Пік-Пік.

— Мышка вам скажа адрас. Ну, мне таксама пара, а то камары заядуць, — і Міра знікла ў аўтобусе.

— Калі мяне завязеце на вуліцу Волаха, нічога не кажыце маме і тату, окей? А то яшчэ падумаюць, што я здрадніца! А я толькі хацела прывезці ім адзін долар, у супольную касу...

— Калі ласка, спадарыня Пік-Пік, ад мяне для вас падарунак, з падзякай за вашыя гісторыі. Не саромцеся і не дзякуйце. Я бізнесмен, хоць і невялікі, але для добрай знаёмай чытачоў „Зоркі” не пашкадаваў бы і зорачкі з неба! — і спадар Віктар улапіў мышцы новенькі адзін долар.

Мышка ў машыне хутка заснула, папярэдне з’еўшы торбачку шакаладных цукерак. Праз тры гадзіны ўжо сядзела ў сваёй норцы і разглядала банкнот. Ужо збіралася схаваць яго, але, уздыхнуўшы, панесла грошы ў татаў пакой. Засунула іх у самую тоўстую кнігу на паліцы.

— Хай будуць на самую чорную гадзіну! — пацерла лапкі Пік-Пік.

**Цётка Міра**

# НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ (2)

Беласточчына знаходзіцца ў зоне пашырэння сівой керамікі. У даўнія часы такія ганчарныя вырабы вядомы былі на тэрыторыі ўсёй Польшчы. Ад XVII стагоддзя тэрыторыя распаўсюджання сівой ганчарнай пасуды стала курчыцца і зараз амаль занікла. Беластоцкія „сівакі", якія знаходзяцца ў музейных калекцыях, паходзяць з Чорнай Вёскі Касцельнай, Лукі, Сямяціч і Кляшчэляў, сваімі архаічнымі формамі і тэхнікай выканання нагадваюць сярэдневяковы посуд. З даўніх часоў меў ён ужывальны характар, зараз выконвае найчасцей дэкаратыўную функцыю.

Апрача „сівакоў", да нядаўняга часу выраблялiся на гэтай тэрыторыі паліваныя і непаліваныя начынні ды гліняныя цацкі, між іншым свістулькі. Пры аздабленні керамікі прымяняліся гравіраваныя, глянцаваныя і маляваныя ўзоры. Посуд з гліны першапачаткова аздаблялі кропкамі, рыскамі, лініямі.

У Акруговым музеі ў Беластоку вельмі багата прадстаўлены гліняны посуд. Ёсць тут гаршкі варыць ежу (старыя, аплеценыя драцяной сеткай), глыбокія і плыткія міскі, дваяны і траяны насіць у поле ежу, слоі, збанкі, „бунькі" да вады, гладышкі на малако, гугельніцы і г.д.

Данае чалавеку ад прыроды пачуццё прыгажосці, найбольш выразна выяўляецца ў народнай архітэктуры. Краявід Беласточчыны нельга ўявіць без характэрнага для яе драўлянага будаўніцтва. Многія драўляныя аб'екты на Беласточчыне з'яўляюцца каштоўнымі помнікамі народнай культуры. Да такіх можна аднесці цэрквы, між іншым у Бельску-Падляшскім і Трасцянцы, старадаўнюю званіцу ў Кляшчэлях, касцёл у Нарве, а таксама пакаянныя крыжы на Грабарцы.

Вялікую дэкаратыўную вартасць прадстаўляюць сабой свірны з галерэяй, некаторыя драўляныя млыны, ветракі, ды захаваныя ў Кнышыне і ў Каліноўцы-Касцельнай лямусы.

Аздабленне драўляных дамоў і ўсёй іншай жыллёвай архітэктуры пачало развівацца на пераломе XIX і XX стагоддзяў, а ў міжваенны перыяд дасягнула росквіту. З гэтага перыяду паходзяць ажурныя ганкі, багата аздобленыя дзверы, розныя падаконнікі, аздобы шчытоў, дэкаратыўная шалёўка, упрыгожванне вуглоў і іншыя аздобы.

Знешняе ўпрыгожванне хат мясцовымі сялянамі ў міжваенны перыяд і першае дзесяцігоддзе народнай улады ў Польшчы было выклікана перш за ўсё традыцыйным імкненнем вясковага насельніцтва запаўняць большыя плошчы сцен-шчытоў арнаментаванымі ўпрыгожаннямі, канкурэнцыяй паміж мясцовымі майстрамі (цеслямі), з якіх кожны імкнуўся выканаць нешта непаўторнае і дзякуючы гэтаму звярнуць на сябе ўвагу іншых сялян, а таксама неабходнасцю практычнага забеспячэння вуглоў, шчытоў, абіцця шалёўкай сцен ад гніцця, замацаванне дахоўкі і г.д.

Шчыт з'яўляецца найбагацей упрыгожанай часткай хаты. На адпаведнай раме па-мастацку ўложана шалёўка (найчасцей у форме елачак, кубікаў, зубчатых ліштваў). Увесь шчыт раздзелены на вышыні акенца ўпрыгожанай ліштвай, над якою часта памяшчаюцца выразаныя з дошак птушкі, кветкі, конікі. На сярэдзіне шчыта адно або два невялікія акенцы, багата ўпрыгожаныя разьбой, асабліва пад акенцам.

Прымацаваныя да канцоў латаў вятроўкі маюць ніжні бераг арнаментаваны. Верхняе заканчэнне іх — канёк — сустракаецца даволі рэдка, але ніжняе прадстаўляе выключнае багацце. Тут можна сустрэць не толькі геаметрычныя фігуры, але выявы розных звяроў, птушак, кветак. Цэласць кампазіцыі шчыта дапаўняюць падшчытнік і падстрэшнік.

Вугал ашалёўваецца некалькімі спосабамі. Найбольш распаўсюджана шалёўка выстаючай падрубы падвугольнікам розных форм, які пакрываецца дажджавіком, а ўся верхняя частка вугла шалюецца адной дошкай. У старэйшых шалёўках гэтая дошка мае адзін бераг упрыгожаны, а ў навейшых служыць палатном, на якое набіваецца арнамент.

Акно ўпрыгожваецца пры дапамозе аканіц, шалёўкі і ліштваў. Шалёўка прыбіваецца вакол трох бакоў акна. Знізу шалёўка не даецца, але прымацоўваецца падаконнік, па якім сцякае з акна вада. У ніжняй частцы мае ён найчасцей разьбу ў выглядзе кубікаў, карнізаў або дадатковай ліштвы. Ліштва, якая прымацоўваецца пад акном, складае найчасцей прыгожую кампазіцыю разьбы па дрэве. Выступаюць тут перш-наперш птушкі ды элементы раслін.

Дэкаратыўным дапаўненнем з'яўляюцца двухстворкавыя, філёнгавыя аканіцы, якія амаль ніколі не ўжываюцца да закрывання акон. Яны прыгожа выканаваны, размалёўваюцца разам з рамай і шалёўкай такім жа ясна-сінім колерам, а каб падкрэсліць філёнгі ўводзіцца цёмна-сіні або іншы колер.

Ганак мае падвойнае значэнне: як дэкаратыўная частка хаты і як месца адпачынку пасля працы, а ганкі-веранды — як часовыя кладоўкі. Архітэктурная разьба выступае каля калонак, на падстрэшніку, шчыце, вятроўках, а часта і па шалёўцы, якая складае ніжнюю частку сцен ганка. Гэтыя дэкаратыўныя элементы з'яўляюцца працягам агульнага ўпрыгожвання хаты з такімі ж арнаментамі, ліштвамі, шалёўкамі.

Найбольш пышныя аздобы дамоў былі ў багатых гаспадароў, якія такім спосабам хацелі падкрэсліць сваю пазіцыю ў вёсцы. Прыгожым дэкорам вылучаюцца, між іншым, вёскі Рыбалы, Нурэц, Зубава, Плюцічы, Краснае Сяло, Канюкі, Сацы, Снежкі і Цялушкі.

Да нядаўняга часу хатняе абсталяванне было багатае, паўсюдна было яно самаробнае або выкананае мясцовымі рамеснікамі. Побач з простымі сталамі, ложкамі, услончыкамі, былі крэслы, лавы з прафіляванымі спінкамі (часта спінкі ў лавах былі перакідныя, што пазваляла ставіць іх пад любой сценкай), маляваныя скрыні (сундукі) і простыя куфры, а таксама розныя кухонныя полкі для посуду і для вешання ручнікоў. Маляваныя скрыні былі каляровым акцэнтам сярод простай мэблі з натуральнай драўніны.

Свайго роду асаблівасцю былі маляваныя куфры, якія выраблялі Фелікс Багдановіч, Аляксандр Грыгарук і Казімір Кісялевіч з Гайнаўкі. Гайнаўскія куфры здабылі хутка папулярнасць у пакупнікоў і выцяснілі куфры без ніякага ўпрыгожання, якія выраблялiся ў Саколцы і ў Сямяцічах.

*(Працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# ІКОНЫ

**Частка XXIV**

*Заканчэнне*

Развітваючыся канчаткова з цыклам „Іконы", прагну яшчэ раз выказаць некалькі фінальных рэмінісцэнцый. Хачу падкрэсліць, што шматлікія размовы, як з роднымі бацькамі, так і з чужымі мне людзьмі, выразна мяне ўзбагацілі. Папоўнілі мой светапогляд, расшырылі рамкі маёй талерантнасці, павялічылі мой лібералізм. Умоцнілі мяне ў перакананні, што сфера ідэйных, рэлігійных і палітычных пераканнняў кожнага чалавека — святое, і што ніхто збоку не мае права ў яе ўмешвацца.

У адной з доўгіх размоў у 1969 годзе бацька мне сказаў: „Ты знаеш, што з людзьмі рабілася? Ну хоць бы скажу табе такое. У нас у батарэі быў адзін прапаршчык. Быў такі заўзяты, што сілаю ганяў салдат у царкву і правяраў, чы ўсе прылежно маліліся. І ўсім салдатам убіваў у галавы, што рускі цар гэто божы пасланец на зямлі і хто выступае проціў цара, той выступае проціў Бога. І ты знаеш што? Той самы прапаршчык после бальшавіцкае рэвалюцыі зрабіўся такім бальшавіком, што ўсё роўно як шалёны крычаў, што Бога німа, а рускі цар гэто кровапівец і трэбо яго павесіць з цэлым яго адроддзем. Гэты прапаршчык бегаў па цэрквах і выганяў з набажэнстваў салдат і лаяў іх як сабак. Ну, то ты мне скажы, што варты такі чалавек? А ты думаеш, што цяпер такіх німа на свеці. Мусят быці. Заўшэ былі, то і цяпер мусят быці. То ты уважай, калі толькі такога спаткаеш, то уцікай як ад заразы, бо ён і цябе ў гразь уцягне. Разумны і добры чалавек ніколі не будзе прасследваць, чы высмейваць таго, хто па-другому думае, чым ён. Гэтым дзелом займаюцца толькі дуракі, або сволачы. Я на іх за свае жыце нагляздзеўся. Найбольш то ў часе рэвалюцыі, бо тады то з людзей найбольш дурного вылазіло. А ты знаеш, колькі такіх сволачаў гінуло? Калі ўжэ надаядалі людзям так, што ні можно было выдзержаць, то такому або нажом сунут пад рабро, або павесят, або кулю ў лоб дзесь у заулку пашлют. Вядомо, што гэтым ні займаліся салдаты-беларусы, бо яны то пачці што ўсе дабракі. Але рускі народ адчайны і тые то ні чыкаліся. Добрэ то добрэ, а як не — то ў лоб і ў яму.

Ты будзь асцярожны. Вядомо, што кажды чалавек павінен меці свае ўзгляды, што можэ належаць да якіхсь там парціяў, або штось такое, то і ты таксамо маеш право належаці, там дзе хочэш. І гэто твае дзело. Але ніколі не накідайсе на таго, што па-другому чым ты ўкленчыт або ў штось там іншэ чым ты верыт. А калі якісь дурак кідаецца на цябе за твае ўзгляды, то ты плюнь яму ў очы і адыдзі ад брыды як найдалей. Не ўвязывайсе з свалатою ў споры і ў дракі. Абыходзь такіх так, як парадачны чалавек абыходзіт г... што лежыт на сцежцы. І знай, што такіе сволачы набрэшут, набрэшут і перастанут, а калі будзеш адбівацца, то вечно будут гаўкаці. Гэто сабакі, а не людзі. Ты заўшэ паступай так, каб табе было добрэ, але глядзі, каб твае дабро не шкодзіло другім.

Чы Бог е, чы его німа, то ніхто ні знае. І таму толькі дуракі могут крычаці, што Ён е або Его німа. Але ж трэбо ведаць і аб тым, што многі людзі, каб не баялісе пекельных мукаў па смерці, то пры жыцці кралі б, грабілі б, забівалі б намного больш, чым робят тады, калі Бога баяцца. От, бачыш, хоць бы таму цэрква добрэ робіт, што розных гіцляў палохае боскімі карамі і мэнкамі. Вядомо, што парадачны чалавек будзе паступаці па-людзку, не думаючы ані пра Бога, ані пра чорта. Але ж ні ўсе на гэтым свеці парадачны.

Ну, а што касаецца мяне, то я думаю, што самэ неразумнэ ў хрысціянстві, то гэта цэла споведзь. Ну, як гэто можэ так быці, што злодзей і разбойнік наробіт зла, пойдзе да споведзі, заплаціт і ён ужэ не вінаваты, бо ужэ духоўны нібы то ад імені Бога ему ўсё прабачыў? Як жэ гэто так можэ быці? Раз злодзей і разбойнік, то злодзей і разбойнік! І грашаком ні можэ адкупіцца!

А ты ў гэты рэлігійны справы то ні лезь, як яны сабе там хочут, так ніхай робят. Наш род, праўда, прәзывалі папамі, але ў нас у родзе ніколі папа ні было і хіба ні будзе. Хоць гэто хлеб і ні цяжкі. Бо ведомо, што і папы на свеці патрэбны. Многі з іх парадачны людзі."

Прызнаюся, што чым даўжэй жыву на свеце, тым болей пераконваюся аб слушнасці бацькавых і матчыных павучэнняў. І ў меру магчымасці стараюся прымяняць іх у сваім жыцці. З аднолькавай непрыязню трактую фанатыкаў, якія атакуюць атэістаў, як і атэістаў, якія атакуюць верующих. Пахвальнае хочацца сказаць у адрас амаль усіх маіх вясковых размоўцаў. Здзіўляў мяне і імпанаваў іх эпічны спакой, адсутнасць агрэсіі, ціхая вера ў свае перакананні. А найважнейшае — прысутнасць веры ў тое, што ўсё ў свеце аднослае і таму, трымаючыся сваіх поглядаў, трэба талерантна ставіцца да поглядаў іншых людзей.

А што датычыцца іконаў, дык бачу я ў іх праяву беларускай нацыянальнай душы. І нягледзячы на даўнейшую сваю партыйную прыналежнасць, ад моманту смерці маці ў 1975 годзе, вісела ў маёй варшаўскай кватэры яе ікона. І вісіць да сёння. Ніколі яе не хаваў, не засланяў, незалежна ад таго, хто наведваў маю хату. Так буду паступаць і ў будучым. Зрэшты, у гэтым не бачу ніякага геразізму, а толькі элементарную вернасць сваім поглядам і прынцыпам. Заканчваючы тэму „Іконы" яшчэ раз звяртаюся да ўсіх чытачоў: ратуйце нашу спадчыну, купляйце старыя іконы на базарах, няхай усе яны астануцца ў беларускіх хатах. Няхай не заспакойваюць пустых амбіцый людзей Захаду, але здавальняюць нашы адвечныя інстынкты.

І яшчэ адна просьба: купляйце іконы, але іх не прадавайце. Будзьце ахоўнікамі гэтых рэліквіяў, а не гандлярамі.

**Алесь Барскі**

# Славісты на „Крэсах"

Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук гатовіць серыю кніжак пра мову, на якой гаворыць палякі ў Літве і Беларусі. Першы том пайшоў ужо ў друк. Матэрыялы да яго збіраліся ад 1986 года ў 70 вёсках. Мова гарадскіх жыхароў знойдзецца ў асобным томе. Працаўнікі Інстытута славістыкі запісалі выказванні, якія з'яўляюцца не адно толькі адлюстраваннем стану мовы, але таксама інфармацыяй пра жыццё ў асаблівых савецкіх умовах і ў час апошніх грамадскіх перамен. Дацэнт Ірына Марынякова, якая супольна з Ірыдай Грэк-Пабісовай і Анняй Зяліньскай апрацавала першы том, сказала, што вельмі важным з'яўляецца даследаванне гаворак, бо ў будучыні не стане людзей, якія імі карыстаюцца. Датычыць гэта моўнага матэрыялу не толькі польскага, але і сумежных з ім — беларускага, літоўскага ці цыганскага.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Уражанні ад паездкі ў Расею

Напрыканцы мінулага года я і некалькі маіх сяброў падаліся ў Пскоўска-Пячорскі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр. Знаходзіцца ён у невялікім гарадку Пячоры пры граніцы з Эстоніяй. Адсюль па прамой толькі 50 км да месца вядомай пераможнай бітвы на замёрзлым возеры Чудскім у 1242 годзе. Змагаліся тады пскоўска-наўгародскія войскі пад камандаваннем князя Аляксадра Неўскага з нямецкімі рыцарамі. Манастыр прыцягвае многа людзей з Расеі, а таксама з г.зв. блізкага і далёкага замежжа. Я сам у Пячорах быў ужо не адзін раз, адзе заўсёды з вялікай радасцю вяртаюся сюды.

Прабываючы ў такіх месцах, чалавек выносіць многа духоўных перажыванняў, а таксама ўмацоўваецца ў перакананні, што для веруючага чалавека матэрыяльныя справы не павінны быць самымі важнымі. Ужо сама прысутнасць на багаслужбах дае вельмі многа чалавеку. Ніхто тады не разглядаецца навокал, ніхто не звяртае ўвагі на тое, ці хтосьці прыйшоў у фуфайцы, ці ў кірзавых ботах. Гэта не самае важнае. Для іх не з'яўляецца істотным, што ядуць і як апранаюцца. Для іх вера — гэта ўсё. Такіх людзей можна сустрэць ва ўсёй Русі (г.зн. Расеі, Беларусі, Украіне). Апынуўшыся сярод іх, чалавек наглядна пераконваецца ў тым, што зямныя справы ў сапраўднасці з'яўляюцца малаістотнымі.

Усяночнае дбанне працягваецца ў манастыры звыш чатырох гадзін, але чалавек не адчувае стомы. У час Літургіі большасць наведаўшых царкву приступае к Прычасцю. Многія вернікі маюць сваіх духоўнікаў-святарэннікаў, у якіх рэгулярна спавядаюцца. Перад Таінствам Прычасця прытрымоўваюцца яны адпаведнай падрыхтоўкі, інакш гавення — напярэдадні прымаюць удзел ў вячэрняй багаслужбе, посцяць і чытаюць „правіла перад Прычасцем". Складаецца яно з некалькіх канонаў, акафістаў і спецыяльных малітваў (дарэчы, яно таксама і ў нас абавязвае).

У царкоўных людзей зусім іншы падыход да тэлебачання, чым у нас. Мы часта не можам, або не хочам без яго жыць. Там тэлебачанне духоўныя і многія вернікі адкідаюць як прапагандыста дрэнных у рашучай большасці ўзораў паводзін, тэндэнцый і розных ідэй.

Многія людзі прытырмоўваюцца ўсіх пастоў. На кожным кроку відна пашана да ўсялякай святасці. Ніхто не прыходзіць на Літургію паснедаўшы, ніхто таксама не нап'еццa свячонай вады і не з'есць просвіру не будучы нашча. Вядома, датычыць гэта царкоўных людзей, свядомых, а такіх у царкве рашучая большасць. Думаю, што можа гэта быць нам тэмай для роздумаў.

Для многіх вернікаў асновай харчавання з'яўляюцца хлеб, каша, часам бульба, капуста, час ад часу рыба. Частка людзей не есць мяса па сваім свядомаму выбару, частка — бо не мае за што яго купіць. Дарэчы, зараз многія людзі не маюць грошай, каб рэгулярна купляць малочныя прадукты. Яблыкі там таксама рэдкасць, не гаворачы ўжо пра цытрусавыя фрукты, аб якіх дзеці могуць толькі памарыць. Паводле расказаў знаёмых можна меркаваць, што датычыць гэта таксама Беларусі і Украіны. Ці ёсць яшчэ недзе такія цэнавыя суадносіны паміж малаком і гарэлкай? У Расеі (напрыклад у Пскове) за 2 літры малака можна купіць бутэльку гарэлкі! Паўлітра малака каштавала тады 710 рублёў, а паўлітра самай таннай гарэлкі каштавала 2800 рублёў. Вывад просты, але чаму яно так ёсць?! У Пскове давялося мне размаўляць з бабулькамі. Адна з іх атрымоўвае 100 тысяч руб. пенсіі, а другая — 130 тыс. руб. ваеннай пенсіі, бо муж яе загінуў на вайне. Сказалі яны мне, што ім не па кішэні купляць кожны дзень малако.

Вярнуся да дзяцей. Пры манастыры існуе дзіцячы хор, у якім займаецца некалькі дзесяткаў дзяўчат і хлопчыкаў ва ўзросце 8—15 гадоў. У кожную нядзелю абедаюць яны ў манастыры. Мяне цікавілі паводзіны дзяцей, паколькі манастырская ежа простая і скромная, асабліва ў час посту. Суп з гароднiны на алею, каша, капуста, рыба з кансервавай банкі, а на дэсерт — пры нядзелі — па яблыку і ўсё гэта трэба было з'есці з аднае пасудзіны. Дзеці елі спакойна, не капрызнічалі, а кіраўнічка хору чытала ім кніжку на рэлігійныя тэмы. Чытанне ў час яды жыціяў святых і іншай духоўнай літаратуры — гэта манастырскі закон. Варта трохі ўвагі адвесці „труджэнікам" — мужчынам у розным узросце, якія за харчаванне і начлег працуюць у карысць манастыра. Нямала сярод іх усялякага роду вандроўнікаў, бяздомных турэмшчыкаў ці былых салдат. Многія з іх моцна вераць, іншыя толькі што спазнаюць шлях да Бога, або вяртаюцца да веры сваіх продкаў. Гэта з'ява паўсюдная ў манастырах на Русі. Часта такія працаўнікі застаюцца ў адным месцы па некалькі месяцаў. У Пячорах іх шэсцьдзесят чалавек. На падобных прынцыпах у манастырах прабываюць і жанчыны, але іх бывае значна менш. Манастыр выдае немаёмным суп і хлеб. У манастырскай ежы нiколі няма мяса, а крыніцай вітамінаў, якія засцерагаюць ад хвароб, з'яўляюцца часнок і цыбуля.

З Пячор паехалі мы на два дні ў вёску, распалажаную ў лясах і балотах паміж Пскоўскім і Чудскім возерамі. Непадалёк вёскі, адзінока над ракой жыве знаёмы манах. Па дарозе наведалі мы 87-гадовую жанчыну, якая расказала нам пра мінулае. Яе апавяданне супадала з расказамі старажылаў з Беласточчыны пра бежанства. Паводле яе, да рэвалюцыі сялянам жылося вельмі добра. Панаваў дастатак і літаральна нічога ім не бракавала. Сем'і былі традыцыйныя, састаўленыя з некалькіх пакаленняў, і вельмі рэлігійныя. Усё здабывалі яны ўласнымі рукамі. Бацькі гэтай жанчыны мелі 5—6 кароў, некалькі коней, свінні, авечкі. Той хто працаваў і хацеў працаваць, не наракаў на свой лёс. Пасля рэвалюцыі, якая прыйшла з гарадоў, усё змянілася. Па вёсках у партыю запісваліся перш за ўсё гультаі, п'яніцы, карцёжнікі і ўсялякага роду лодыры. Пачаліся даносы, ссылкі, рэквізіцыя маёмасці. Многія не вярнуліся ў свае дамы. Тое, што было накоплена, напрацаванае многімі пакаленнямі, прападала за лічаныя дні і гадзіны. Сялянства — саслоўе, якое было апорай дзяржавы і Царквы, і менавіта таму яго знішчэнне ўжо ў пачатках рэвалюцыі было мэтай яе завадатараў.

Вяртаючыся на аўтобусе ў Пскоў, давялося мне размаўляць з манахам, які многа гадоў правёў у Пачаеве, а цяпер прабывае ў аднаўленым манастыры каля Кастрамы. Калі два гады таму развaліны будынкаў былі вернуты Царкве, пачаліся праблемы з навакольнымі жыхарамі, якім трэба было аддаць частку манастырскай зямлі. Канчаткова манастыр узяў толькі частку зямлі вакол будынкаў дзеля вырошчвання агароднiны. Аднак адносіны насельніцтва былі варожае. Гаварылі яны: „А дзе вы былі тады, калі ліквідавалі манастыр? Чаму вы тады яго не абаранялі?" Такое спустазшэнне менталітэту і свядомасці людзей было выклікана сямідзесяцігадовай камуністычнай няволяй. Можна знайсці яшчэ і іншыя прыклады. Вось у адной вёсцы людзі адбудоўваюць царкву, якую некалі некаторыя з іх або іх блізкія самі разабралі. У такі менавіта спосаб яны хаця часткова хочуць пакаяцца перад Богам і Царквою.

Падчас знаходжання ў Расеі, я не адзін раз заўважыў катоў, сабак, а нават галубоў і вераб'ёў у пачакальных вакзалаў, у сталовых, а нават у магазінах з харчовымі артыкуламі. Ніхто іх адгэтуль не праганяе. У першы момант падумалася мне пра гігіену, але потым прыйшла думка, што, мабыць, гэта праява любві да жывёл людзей, якім нялёгка жывецца.

Зваротная дарога прайшла без праблемаў. З Пскова ў Гародню (каб было танней) паехалі мы рэйсавым цягнікам Санкт-Пецярбург — Берлін цераз Беласток і Варшаву. Мытню ў Гародні пераадолелі мы беспраблемна, а адгэтуль нашым цягнікам на вузейшых рэйках дабраліся ў Беласток. Толькі пасля кантролю нашых мытнікаў (правяралі яны надта павярхоўна) выявілася, што гэта кантрабандысцкі спіртна-тытунёвы поезд. Можа тэрмін нашага вяртання — 30 снежня — таксама паўплываў на маштаб гэтай з'явы. Падчас стаянкі ў Кузніцы, калі мытнікі выйшлі з вагонаў, пачаўся гандаль ва ўсім поездзе. Галоўным таварам быў польскі спірт у арыгінальнай „упакоўцы" куплены ў Гародні. Амаль кожны з „пасажыраў" меў пры сабе па некалькі літровых бутэлек, якія ў цягніку прадаваліся па 150 тысяч зл., а ў Гародні па 4 долары. „Пасажыры" між сабою розніліся тым, што тыя з Гародні (беларусы, палякі) прадавалі, а нашыя — у іх куплялі. Адно старэйшае сужонства з нашага купэ (родам з-пад Лап) купіла ажно 20 бутэлек. Неўзабаве прадаўцы пакінулі цягнік, залатоўкі памянялі на долары і зноў вярнуліся ў Гародню. Для многіх такі занятак стаў іх своеасаблівай прафесіяй. А кліенты асцярожна пакавалі набыты тавар, радуючыся, што шчасліва пераехалі мяжу. З аднаго боку можна было б цешыцца, што людзі маюць заробак, але з другога боку сумна, што адбываецца тое ў выніку гандлю такім таварам. Не цяжка дадумацца, у якой атмасферы адбываюцца такія здзелкі, якая лексіка спадарожнічае гандлю, як паводзяць сябе турысты-камерсанты. Пабачанае ў цягніку яшчэ раз даказвае, што вядзецца безупынная барацьба з духоўнымі каштоўнасцямі.

Ужо ў Беластоку я даведаўся, што тады, калі мы вярталіся назад, у Пячоры паехалі мае сябры, якія ў Гародні ўзялі з сабою знаёмую і памаглі ёй купіць білет. Каштуе ён 100 тысяч „зайчыкаў" (столькі ж пенсіі атрымоўвае яе мама). Без іх грашовай дапамогі дзяўчына не змагла б паехаць туды, хаця сама працуе.

Такія паездкі духова ўзбагачаюць чалавека, адначасна даюць матэрыял для роздумаў, прымушаюць параўнаць пабачанае з нашай сітуацыяй. Наглядна можна пераканацца, што не бракуе людзей, якія, нягледзячы на безліч праблемаў і складанасцей, жывуць згодна Божай волі. Паказальнікам для іх з'яўляюцца словы Хрыста: „Шукайце ж найперш Царства Божага і праўды Яго, і гэта ўсё дадасца вам" (Матф., 6:33).

Паводленазіранняў з гэтай і папярэдніх паездак у Русь бязвольна ўзнікае яшчэ адна выснова, што так як не было ў нас сапраўднага камунізму, таксама няма ў нас сапраўднай бяды. Давайце не грашыць, наракаючы, але дзякуйма Госпаду за ўсё!

**Мікалай Семаковіч**

# ВЯЛІКІ ПОСТ

*Тады Ісус быў узведзены Духам у пустыню... І, пасціўшы сорак дзён і сорак начэй, напаследак згаладаўся (Матф., 4:1—2).*

*Гэты ж род выганяецца толькі малітваю і постам (Матф., 17:21).*

Вялікі Пост, які Святая Праваслаўная Царква ўстанавіла ў прыклад і на памяць посту Ісуса Хрыста ў пустыні, сёлета пачынаецца 6 сакавіка (21 лютага па ст. стылю). У Старым Запавеце пост неад'емна спадарожнічаў настойлівым малітвам, у якіх вернікі звярталіся да Бога за дапамогай і Яговай ласкай. У Новым Запавеце аб важнасці посту навучаюць і Сам Збавіцель, і Яговыя Апосталы. Гасподзь указвае, што не павінен ён заключацца толькі ў яго вонкавым выкананні: „І калі посціце, не будзьце панурыя, як крывадушнікі...." (Матф., 6:16). З постам павінны спалучацца самыя скрытыя памкненні ўзнесціся да Бога. Усталяваны і замацаваны прыкладам самога Хрыста пост з'яўляецца неабходным элементам, які спрыяе адпаведнаму настрою і перамозе над сваімі пажадлівасцямі. Трэба аднак памятаць, што ёсць і такі пост, які не з'яўляецца мілым Богу. Дзееца гэтак тады, калі чалавек, посцячы, узвышае сябе і асуджае іншых. Найлепшы гэтаму прыклад — фарысеі (Лука, 18:11—12).

Вось словы Прападобнага Серафіма Сароўскага наконт посту: „Пост не заключаецца толькі ў тым, каб радка есці, але ў тым, каб есці мала; і не ў тым, каб есці толькі раз, але ў тым, каб не есці многа".

З постам неразлучна звязана пакаянне. Святая Царква, як любячая маці, безупынна напамінае сваіх дзяцей аб пакаянні, аб грахах і аб неабходнасці змагання з імі, асабліва ў дні Вялікага Посту. Самым цудоўным гэтага прыкладам з'яўляецца пакаянны канон Св. Андрэя Крыцкага. Увесь ён насычаны плачам душы аб сваіх грахах, якая, страціўшы душэўную чысціню, кліча са слязамі: „Памілуй мяне, Божа! Памілуй мяне!"

Калі хто не пачаў пасціць, дык гэта абазначае, што ў яго няма яшчэ зачатка духовага жыцця, што ён яшчэ не гатовы да духовай барацьбы з тымі сіламі, якія намаўляюць яго да грэху. Трэба таксама памятаць, што мэтай правільнага посту з'яўляецца перш за ўсё навука падпарадкавацца Божай волі. Пост шчыльна звязаны з малітвай ды Таінствамі Споведзі і Прычасця. Хто посціць правільна, таму лёгка і радасна на душы.

Пасціць трэба паводле сваіх сіл і разумна. Строгі пост не абавязвае хворых, дзяцей і цяжарных жанчын, а таксама людзей, якія фізічна цяжка працуюць. Трэба аднак аб размеры памякчэння посту параіцца са святарэннікам. У час посту нельга нават думаць пра гарэлку, трэба таксама паўстрымацца ад шлюбнага сужыцця. У перыяд Вялікага Посту нельга таксама ладзіць прыёмы гасцей.

Прыгадаем, што ў перыяд гэтага посту, згодна з уставам, алей і віно (для падмацавання тых, якія строга посцяць) можна есці толькі ў суботы і нядзелі, а таксама ў некаторыя вялікія святы, напрыклад, у Аднойдзенне галавы Св. Іаана Хрысціцеля, у 40 Мучанікаў Севасційскіх ці ў Вялікі Чацвер. Рыбу можна есці на Благавешчанне і ў Вербніцу. Вядома, трэба памятаць аб тым, што было сказана вышэй, а менавіта аб духовых і фізічных сілах.

З Вялікім Постам звязаны:

1. Канон Св. Андрэя Крыцкага — чытаецца вечарам на працягу першых чатырох дзён посту і ў сераду вечарам пятага тыдня.

2. Малітва Св. Яфрэма Сірына — чытаецца на ўсіх багаслужбах за выключэннем субот і нядзель; у гэтыя два дні не становімся на калені і не робім зямных паклонаў.

3. Літургія Ранейасвячоных Дароў — служыцца яна ў серады і пятніцы, а таксама на працягу першых трох дзён Вялікага Тыдня.

4. Страсныя багаслужбы — праўляюцца вечарам у першыя чатыры нядзелі.

5. Бацькоўскія памінальныя суботы — 2, 3 і 4 суботы прысвячаюцца памінанню спачылых.

У гэтыя дні святога посту пастараймася як найчасцей бываць у царкве, бо нішто не можа замяніць нам велікапосныя службы на нашым шляху да пакаяння, які вядзе нас да свята свят — Пасхі Хрыстовай.

**С.Н.**

Паводле артыкула „Назначение христианского поста", у: „Псковско-Печерский листок", н-р 90.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Нож у шкарпэтцы або Дзесяць злотаў у кашальку

Сёння ў дзверы мае кватэры вечарам нехта пастукаў. Пакуль я звалокся з канапы, на якой спачываў з газетай, усхваляваны падзеямі ў свеце і рэгіёне (чатыры войны, два забойствы, адна авіякатастрофа і гвалт — на першай старонцы, тры паводкі, шэсць пажараў, палітычнае забойства, павышэнне аплат за газ і электрычнасць і падаткаў на другой...), схапіў сваю палачку і датэпаў у вітальню, той хтосьці ўжо званіў да суседкі. Там басавіта азваўся сабака — нікога з людзей дома не было. Я прылíп да дзвярнога вочка — нейкі мужчына павярнуўся ў бок маіх дзвярэй і зноў пастукаў. Я адчыніў. Малады бландзін у пацертай джынсоўцы сунуў мне пад нос нейкую паперыну ў цвёрдай пластмасавай аправе. „Я — эмігрант з Сараева" — было надрукавана побач са здымкам згаданага бландзіна і просьбай дапамагчы. „Я — Сараева" — паўтараў хлопец з адчаем. Пачаў я шамацець „старымі" і „новымі" ў сваім кашальку. Апошні „новы", які ў мяне застаўся да канца месяца, гэта быў банкнот 10 злотаў. І добры пук чырвоных, рудаватых, зялёных, зеленаватых... Згроб я тыя каляровыя „старыя" паперкі сарамліва ў жменю, і моцна пачырванеўшы, сунуў эмігранту ў далонь. Той чамусьці скрывіўся, але падзякаваў і хутка пайшоў.

А заўчора мяне наведаў быў чачэнец, праўда, без ніякіх папераў, і на чыста рускай мове прасіў трохі грошай для галоднай сям'і. Мусіць, шмат бежанцаў з Чачні ўжо дацягнулася да Беластока, не кожны ж мусіць абараняць айчыну. Хлопец той больш як мафіозі выглядае, меркаваў я, чым бежанец. Даруйце, людкове, можа і грэх так чапляцца да бедных ахвяр палітыкі і вайны, але здалося мне, што падпахай у майго госця нешта адтапырваецца, быццам пісталет. „Можа, і ў шкарпэтцы нож мае?" — мільганула мне ў галаве дурная думка. А як жа ж! Я запрасіў быў госця сесці, той не зусім, праўда, ахвотна, але прысеў (не вельмі хацеў заводзіць размову пра стратэгію і тактыку магчымага партызанцкага варыянта вайны, а той мяне вельмі цікавіў), і над шкарпэткай, пад валасатай лыткай я ўбачыў ручку фінскага нажа! Ну, што ж, упусціў я чалавека ў хату, то і прыйшлося даць яму таксама дзесяць злотаў...

Аднаго я не разумею, чаму я так чырванею, адчыняючы свой стары кашалёк. І ў краме, і перад прафесіянальным жабраком, і перад няшчасным нябогам. Нават і перад сабою! А ёсць жа ў нас людзі, якія на такі від бледнуць, як сцяна, заглянуўшы ў сваю касу. Ну, што ж, я — адзінокі чалавек, дзень пагаладаю, і два, і тры, гэта — мая асабістая справа. Больш адухаўлёны раблюся, ведаю па вопыту. Ад масла і мяса я адвучыўся яшчэ ў „карткавыя" часы. Адрокся я ад іх ідэалагічна і практычна. Не меў сілы стаяць ноччу ў чэргах пасля працы, то і ляжаў галодны дома ды вершы пісаў, сатырычныя. Магу карміцца бульбай, думаў, сырам, малаком, так думаў. Дарэчы, мала на талерку гляджу, хіба што там нешта такое ляжыць, што і эстэтычна мяне кране. Але цяпер, думаю, прыйдзецца мне адмовіцца нават ад звычайных пшанічных булачак, якімі я заўжды напіхаў страўнік!!! І ад бульбы, майго ратунку і асалоды!..

Эх, калі б чалавек мог толькі вершамі жыць, марамі пра каханне ды месячным сяйвом у бяссонных трывожных ночы на зыходзе стагоддзя і тысячагоддзя!

**Вандал Арлянскі**



З былога

# Чорт

Вёска, у якой я жыла — вялікая. Распаложаная яна ў даліне, праз якую праплывае рэчка і цягнуцца навокал балоты ды парослыя карчамі і травой лугі. Калісьці, як я была малая, страшылі мяне бацькі русалкамі і чэрцямі, а гэта ўсё дзеля таго, каб я, барані Божа, не ўлезла дзе ў гэтыя балоты і не прапала. Найбольш казак і легенд расказвала мне бабуля і мне гэтыя лугі былі таямнічыя і страшныя. Вялося там многа птушак і рознай звярыны. Туды хадзілі рыбакі за рыбай, але я туды ісці баялася. Сягоння ўспамінаю гэтыя гады з тугой, а адно здарэнне, якое сапраўды мела месца ў гэтых лугах, хацела б расказаць іншым. Людзі цяпер найбольш гавораць пра складанасці жыцця і палітыку, тады можа мой расказ зменіць настрой чытачоў.

Жыў у суседняй вёсцы адзін дзядзька, якога ўся сям'я прыняла іншую веру, чым праваслаўная. Яны былі (і ёсць надалей; яго сын жанаты ў нашай вёсцы) баптыстамі. Акуратныя гэта людзі, спакойныя і добрыя. Так нешчасліва здарылася, што гэты дзядзька — вельмі інтэлігентны і здольны чалавек — так моцна ўнікаў у баптысцкую навуку, ажно страціў розум. Што рабіў, дык усё гаварыў, што гэта Бог яму так падказвае. Дзіўныя былі яго паводзіны. Было так, што ў адну ноч выразаў ён статак сваіх авечак і павымаў з іх сэрцы, бо так яму сказаў Бог. На другі раз ганяўся па лесе за жанчынамі, якія збіралі грыбы, крычучы за імі, што не іх яму патрэбны, але іх сэрцы для Бога. Многа было ненармальных здарэнняў з яго ўдзелам і шкада было яго як чалавека, калі зімой хадзіў босы. Але ён быў шчаслівы на свой спосаб. Спяваў, што ўмеў, пісаў розныя фокусы і весела гутарыў з людзьмі.

Аднойчы летам прыйшло яму ў галаву (Бог яму так сказаў), каб зрабіць вялікі драўляны крыж, надзець белую адзежу, а на галаву — вянок, так як у Хрыста і апоўначы занесці крыж у лугі, што за сялом і ў балоце затаптаць яго нагамі. Такая думка ўзнікла ў хворай галаве з-за таго, што баптысты, хоць і моцна вераць у крыж, гаварылі, што крыж — гэта тое ж самае, што пісталет або нож, з якога нам хтосьці забіў блізкага. І да яго не трэба мець ніякіх сентыментаў, цалаваць ці насіць на шыі. Стары Захар як набраў гэтага ў галаву, так і зрабіў. Не спаў і не еў, пакуль твор ягоных здольных рук не быў гатовы. Выканаўшы ўсё, незаметна выбраўся ў дарогу.

Была ціхая летняя ноч. Ішло на дождж. Неба было цёмнае. У балоце квакалі жабы, адзываліся драчы, чайкі. У тую ж ноч выбраўся з вінтоўкаю на андатры малады паляўнічы. Часта бываў ён у гэтых лугах, ведаў сцежкі і месцы, дзе мог схавацца ў чаканні здабычы. Сядзеў так ціха, засяроджана над вадой. Набліжалася поўнач. І раптам пачуў ён крык спалоханага птаства і нейкі шэлест паміж карчамі. Надарэмна паляўнічы ўглядаўся ў цемру, каб заўважыць якуюсь звярыну. Знянацку перад вачыма паляўнічага забялела постаць чалавека з крыжам на плячах. Валасы яму пайшлі дыбам, акамянеў ён і не мог паварышуцца. Стары Захар, стомлены дарогай, са стогнам скінуў крыж проста ў ногі паляўнічаму. Пырскі халоднай балотнай вады прывялі паляўнічага ў прытомнасць, які, кінуўшы вінтоўку, скочыў як апараны ўцякаць.

Страх набыў два твары. Спалохаўся і віноўнік цэлага інцыдэнта, але ў яго галаве хутка мільганула думка, што з балота выскачыў шатан, які спалохаўся крыжа. Яму стала цікава, як гэты чорт выглядае і што скажа пра Бога. Ён хуценька затаптаў крыж і кінуўся ўсед за уцекачом. Паляўнічы, хоць малады і спрытны, калі згледзеў за сабою, што гэтае штосьці яго гоніць, упаў на зямлю і, колькі сіл хапала, крычаў на ўвесь голас. Стары, прыгледзеўшыся зблізка, пазнаў Пятра і вельмі расчараваны адышоў, а ранкам вярнуўся дахаты, каб заснуць спакойна пасля працавітай ночы. Пятро звалокся ледзь жывы, пасівеў і пачаў хварэць. Сягоння няма ў жывых аніводнага з іх. Асталіся толькі ўспаміны, з якіх і плакаць, і смяяцца можна.

**Станіслава Шымчук**



*У гэтым доме гулялі чэрці.*

Фота з архіва

Даўным-даўно

# З чартоўскага роду

Гэту гісторыю расказала мне бабуля. А сама яна яе пачула ў Сібіры, у бежанстве.

Даўным-даўно здарылася гэтая гісторыя. Адна з чартоўскага роду пакахала чалавека. Ад поўдня да поўначы старалася быць пры ім. Куды ён — туды і яна. Ніхто не ведаў, што дзеўка з сілы нячыстай, але хто гэта бачыў і чуў, каб дзеўка за хлопцам сама бегала?! Не ведалі, як адчапіцца ад назолы. Урэшце, пайшлі да варажэя, а той параіў, каб узяць у бацюшкі пояс, якім ён апярэзваецца ў час багаслужбы, і калі прыйдзе час дзяўчыне ісці дадому, закінуць на яе гэты пояс і не пускаць.

Хлопец так і зрабіў. Дзяўчына спачатку моцна тузалася, але аслабла і пачала прасіцца, каб яе пусціў, бо іначай яе сям'я не прыме. Хлопец не пусціў. Калі прыйшоў час, калі ўсе пачалі выходзіць, дзеўка заплакала:

— Што ты нарабіў?! Мне сярод сваіх няма месца, і тут няма як жыць...

— Ты сама гэтага хацела. А цяпер будзеш маёй жонкай.

— Няхай так будзе, але дзяцей мы не дачакаемся. Нам нельга мець дзяцей з істотамі з чалавечага роду.

— Ну, што ж. Дзядзька Лукаш і цётка Люба таксама дзяцей не нажылі, а жыццё ў згодзе пражылі.

Неўзабаве згулялі вяселле. Зося — так захацела назваць сябе чартоўка — дапамагала мужу ва ўсім, а была вельмі моцная.

Аднойчы пайшлі трэсці гной. Раптам на полі з'явілася столькі варон і крумкачоў, што Максім дасюль не бачыў.

— Што ж гэта такое?! — злякаўся мужчына.

— Не бойся! — сказала Зося. — Гэта мае браты і сёстры прыехалі прасіць на вяселле. Брат жонку бярэ. Але мы не паедзем, бо калі зробіш што не так, як трэба, могуць цябе пакрыўдзіць.

— Не, паедзем. Буду рабіць тое, што і ты. Мне цікава быць на гэтым вяселлі.

Доўга ехалі лясными дарогамі, аж заехалі ў такую гушчэчу, што ледзь пралезці. Увайшлі ў яму лесвічнымі прыступкамі.

— Не мачы вачэй вадой, — папрасіла Зося мужа, — бо ўбачыш тое, чаго табе нельга бачыць.

Максім прамаўчаў. Урэшце дайшлі да вялікіх будынін. Адзін дом быў каляровы. З яго выйшаў жаніх.

— Добра што прыехалі. Ужо ўсе сабраліся ў вясельным доме.

Вясельнікаў было шмат. Усе сталі ў пары і пайшлі па чарзе да вясельнага дома. Перад парогам усе прамывалі вочы вадой. Так зрабіла і Зося. Максім не паслухаў яе парады, памачыў і ён свае вочы. З той хвіліны не бачыў ужо прыгожа апранутых людзей, а сапраўдных д'яблаў, валасатых, рагатых, з конскімі капытамі, чорнатварых. Зося засталася ў папярэднім выглядзе, бо ўжо да іх не належала.

На стале стаяла пітво — у бутэльках нейкая чорная вадкасць і закусь — жабы і вужакі. Усе пілі і елі, піў і еў і Максім. Пачаў іграць аркестр — два чарты білі палкамі ў конскія косці, што віселі над сталом маладых.

Так гасцявалі два дні, а калі прыйшлося ехаць дадому, далі ім пачастунак — кілбасы і катлеты (дзве печаныя вужакі і пару жаб). Маладыя правялі іх аж на бераг ямы.

Часта прыляталі крумкачы і вароны на поле Зосі і Максіма, але ён ужо ніколі не наважыўся ехаць у госці да чэрцяў. Пасля кожнага адлёту птаства жонка плакала.

Так і не нажылі яны дзяцей. Калі Максім памёр, Зося недзе знікла.

**Аўрора**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мне, Астроне, прысніўся „мутны" сон. Мяркую, што прадвяшчае ён нешта кепскае. А быў ён такі.

Быццам я знаходжуся ў сябе на працы. Бачу, што ў адным пакоі адбываецца нейкі сход, а я нічога не ведаю. Уваходжу ў гэты пакой. Не памятаю, што было на сходзе, але ўжо я з яго выйшаў, бо, відаць, скончыўся. Іду ўніз па нейкай лесвіцы ў калідоры таго будынка, але гэта не той будынак, у якім я працую. Нейкі іншы, даволі стары. Толькі сышоў я ўніз, як уваліўся ў нейкую ваду. Вада неглыбокая, мо ў 30 сантыметраў, пад ёю я адчуваю лёд. Быццам бы столькі вады растапілася са снегу і лёду, калі пацяплела.

Я ўваліўся, але зараз жа ўстаў. І... адразу ўваліўся ізноў у ваду, але трымаюся неяк рукамі, хаця я ўжо сяджу на куцках, каб не сесці на... задняе месца. Мне хочацца смяяцца.

Вады ўсюды поўна. Ёю пакрыты лёд. Яна не празрыстая, а мутнаватая. Многа людзей ходзіць па ёй. Побач са мной бачу двух свяшчэннікаў. Адзін мой супрацоўнік плыве на „лодцы". Гэта фактычна не лодка, а дзве счэпленыя дошкі. Ён стаіць на гэтых дошках, быццам нейкі гандальер, і заўзята грабе вяслом. Праплыў каля мяне. Адзін з бацюшкаў падаў мне руку, і я ўстаў, не ўсеўшыся ў вадзе на лёд. Што будзе, Астроне?

Адам

Адаме! Мутнай вады ўсюды многа. Будуць і ў цябе нейкія непаладкі на рабоце. Усё, аднак, павінна ўладкавацца: падаў жа табе руку той бацюшка!

АСТРОН

## Карысныя парады

Янкі Целушэцкага

### Сакавік у гаспадарцы

Пачынае таяць снег. У гэты час трэба, перш за ўсё, звярнуць увагу на азіміну. Абысці поле. Зрабіць праход стаячай вадзе ў водаадводы. Там, дзе доўга ўтрымліваецца лёд, трэба яго паламаць, пераважна на пшаніцы — дзеля таго, каб не сапрэла.

Рыхтавацца да сяўбы. Праводзіць апошнія рамонты сельскагаспадарчых машын і прыладаў. Закончыць пакупку неабходных штучных угнаенняў. Пераглядзець бульбу. Адабраць насенную. З кармавой зрываць расткі, таму што яны шкодныя для жывёлы. У корм жывёле дадаваць соль. Пасадзіць квактуху — раннія кураняты добра развіваюцца і ўжо восенню нясуцца. Наводзіць парадкі ў садзе і на панадворку. У вуллях з пчоламі кацюбкай выгрэбці з дна смецце. Слабейшыя роі падкормліваць сіропам з цукру (1 частка вады, на 2 часткі цукру).

## Іконы — музеям, узнагароды — мытнікам

У мінулым годзе беластоцкія мытнікі затрымалі на мяжы 230 ікон, шэсць цэнных крыжоў і некалькі соцень нумізматаў, не лічачы вялікай колькасці папяросаў і гарэлкі.

Дзякуючы мытнікам Акруговы музей у Беластоку ўзбагаціўся на 37 ікон і на больш за 300 манет. Апрача гэтага бальніцам у нашай дзяржаве перададзена 58 тысяч літраў чыстага спірту, які быў адабраны кантрабандыстам на граніцы з Літвою і Беларуссю.

Адзін з мытнікаў атрымаў 350 мільёнаў старых злотых узнагароды; двух другіх — па 150 мільёнаў.

Андрэй Гаўрылюк

## ПАРНАСік

Чытальніцкая літсуполка на неарантаваных пляж

### Няпоўны юбілей

Няпоўны юбілей
Як існуе „Ніва".
Пішы нам смялей,
З гонарам, не ляніва!

Трыццаць дзевяць лет
Роднай нашай „Ніве".
Незвычайны свет
Для многіх адкрыла.

Пяцьдзесят шосты год —
Дата асаблівая,
Чацвёртага сакавіка
Выйшла „Ніва" мілая.

Помню першы нумар
Што трапіў дахаты,
Былі весткі, гумар;
Стаў я больш багаты.

А тады, вядома,
Час быў не найлепшы.
А вучыўся і дома
З „Нівы" радасць меўшы.

„Ніва" была школай
І настаўнікам,
Чыстай, роднай мовы
Падручнікам, слоўнікам.

І далей вучуся;
Мо хто і засмяецца,
А я гэтым ганаруся
Маім шчырым сэрцам.

Дык жадаю „Ніве"
Юбілею роўнага
Як зярна па жніве
Чыстага і поўнага.

Мікалай

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. сталіца Руанды, 3. дзяржава на поўначы Афрыкі, 5. ліхаманка, 7. чорная ў коміне, 9. дзве штукі аднаго гатунку, 10. невялікі ваенны або карсарскі брыг, 11. няякасны выраб, 12. дзяржава на захадзе Афрыкі, 14. эпас Гамера, 16. пітво з ягад, 17. летні месяц.

**Вертыкальна:** 1. металічныя латы на грудзі і спіну для засцярогі ад зброі, 2. кубічны дэцыметр, 3. яўрэйскія праснакі з пшанічнай мукі, 4. на коле з паветрам, 6. навука аб нябесных целах, 8. жыве з міласціны, 9. капялюш, або дзяржава, або сталіца гэтай дзяржавы, 11. лёгкі выязны вазок, 13. праліўны дождж, 14. паднявольны земляроб у старажытнай Спарце, 15. слаўны іспанскі мастак-сюррэаліст.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 3 н-ра:** канкан, Каўказ, крэкер, крыкса, кінжал, карова, ксёндз, капкан, Кракаў, квакер, Казбек.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Лукашу Пацэвічу і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## КРЫЛАТЫЯ СЛОВЫ

Хвалько любіць хваліцца, а ў працы не гадзіцца.

Гультаю хлеб на кію.

Гультай, як вош, на чужой спіне жыць харош.

Гультай, нават калі сядзіць, мучыцца.

Дурны пляце — разумны думае.

Вужака раз у год мяняе скуру, здраднік штодзень.

Вайна людзей з'ядае і крывёю залівае.

Больш людзей утапілася ў кілішку, чымсьці ў моры.

Свеціць ясней дым у айчыне, чымсьці неон на чужыне.

Сто камароў кабылу адужае.

Сляпы кот не зловіць мышы.

Не ўсё, што круглае, з'яўляецца яблыкам.

Найбольшае мора складаецца з кропель.

Кульгавая блыха таксама грызе.

Няма на свеце цыбулі, якая пахне яблыкам.

Шчаслівец нават на пустыні купіць шынку.

Грошы — гэта заяц.

*Падборку зрабіў*
**Янка Целушэцкі**

## У чужым доме

— Сёння маладыя не так слухаюцца бацькоў, як перад вайною, — успамінае баба Марыся. — Я была з беднае сям'і, нас у бацькоў было аж васьмёра — шэсць дзяўчат і двух хлопцаў. Цяпер наракаюць, што цяжка жыць шматгадзетным сем'ям, але калісь, кажу вам, было дзесяць раз цяжэй!

У майго Косці было чатыры сястры і два браты, але яны былі дзеці багацея. Калі Косця сказаў бацькам, каб папрасілі дзядзьку весці яго ў сваты да мяне, тыдзень крычалі:

— Мы табе дамо галузу брацьу хату! Там ніхто цэлае сарочкі не мае! Нават бульбы ўволю не наядуцца! Адразу выганім вас абое! Пойдзеце на службу да пана ў маёнтак, месца ў нашай хаце для вас быць не можа!

— То пойдзем! — рашуча адказаў мой любы. — Але вяселле трэба будзе вам усё ж зрабіць, я такі ж ваш сын, як Павел і Грыша!

Бацькі неяк супакоіліся, далі згоду. Перад вяселлем мы з сёстрамі працавалі ў яўрэяў, мыючы кватэры, каб крыху зарабіць і купіць мяса. Калісь таго мяса шмат не было на сталах, але трэба ж было хоць крыху даць на вясельныя сталы, каб было, як ва ўсіх. Калі ў панядзелак пераехалі ў дом маіх свекраў, вядома, на іхніх сталах было багацей.

Адразу пасля вяселля свякруха ўзялася за мяне:

— Мы цябе прынялі, бо наш сын упарты. Ты нам павінна ногі мыць і ваду тую піць, бо мы цябе ў людзі вывялі, з галечы вывалаклі!

Калі мой муж быў дома, маўчалі, а калі не — грызлі, як маглі. Я маўчала. А чаго ж магла спадзявацца ад багатых свекраў такая нявестка, як я?.. Калі прыйшоў час жаніцца Паўлу і Грышку, маці ім сказала: „Лепш узяць непрыгожых нявестак, абы з багатых".

Пачалася вайна. Пражылі мы неяк да вызвалення, выжылі. Нарадзіўся ў акупацыю ў нас Міша, пасля яшчэ — тры дачкі і сын. Свякруха дакарала: „Хопіць табе котнай усё хадзіць!" Я на гэтыя словы плакала. Косця суцяшаў:

— Не плач, непатрэбныя слёзы. Гадуем жа неяк дзяцей іншыя, пагадуем і мы.

Жанкі Паўла і Грышы смяяліся і адказвалі свякрусе: „Гэта ваш Косця так дзейнічае". Яны ніколі ёй не прамаўчалі — былі роўныя станам, дочкі заможных гаспадароў.

Калі была магчымасць знайсці работу, Косця з братамі ішлі працаваць, а мы, бабы, усё рабілі на гаспадарцы. Як толькі дзеверы сабралі трохі грошай, пайшлі ад бацькоў. Дапамагалі ім жончыны бацькі, пабудаваліся. Нам было цяжэй, прыставілі толькі кухню і пакойчык да дому свекраў. Гаспадарчых будынкаў яшчэ пяць год не ставілі, карысталіся старымі. Я была рада, што хоць цяпер я гаспадыняй дома і ніхто ў гаршкі мне не заглядае... Косця не піў, усе грошы мне аддаваў. Праз пару гадоў з бацькоўскага дому пайшлі і дзяўчаты. Калі ўжо сталі на сваім, прасілі ў мяне прабачэння за кепскія адносіны да мяне ў родным доме. Не раз казалі: „Мы і не ведалі, што замужам, у чужых, так дрэнна можа быць". А вы думалі — як? Нявестка заўжды кепская, хаця б і анёлам была і ўсім дагаджала!

Вось і нашы дзеці параслі, пачалі па адным з дому выходзіць. Усе з'ехалі ў горад. Цяпер мы адны, я і мой Косця. Свекры даўгавечныя былі, кожнае амаль да соткі дацягнула (свёкар памёр у 98 гадоў, свякруха ў 97). Зямлю мы аддалі ў дзяржаўны фонд за пенсію. Косця пару злоты яшчэ і з працы дастане, бо на дзяржаўным служыў. Цяпер нам добра жыць, але здароўя не маем. Маладыя былі — здароўе было, грошай — не, а цяпер мы хваравекія, але з грашыма. Ну, што ж, пэўна так і ўвесь свет стаіць.

Аўрора

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пароды

*Сон расплюшчыў у табе вочы*
*дрэва агню вады заранкі*
*нарадзіўся камень шэрая зязюля*

**(Міра Лукша,**
**„сон расплюшчыў у табе вочы")**

### Сон

мужык спіць а яму расце
дрэва агню ў бульбянішчы
бульба шэрая зязюля
шукае сваё не сваё
гняздо расплюшчыла вока
на ваду заранкі
прысак
таўканіца
попел шэры
ку-ку

**Адам Маньяк**

## Паразумнеў

— Я на слупах, — гаворыць Марк, —
Спакойна б вешаў выпівак.
Прысуд, як бачыце, гатовы...
Але чаму такі суровы?
Нядаўна ж жлукціў сам няблага
Віно, гарэлку, нават брагу,
І не вязаў нярэдка лыка,
Вачамі толькі лыпаў-лыпаў.
Чаму змяніўся?
Ды хваробы
Палезлі розныя ў вантробы.
Калоць штосьці стала ў жываце,
І грудзі нешта ўжо гняце,
Такога не было раней...
Як саслабеў — паразумнеў!

**Віктар Рэчыц**

Мал. Г. Назарава

# Нівка

## З беларускіх гаворак



*У Белавежы вітаюць турыстаў. Па-беларуску?*

**ГУМАР З БАРАДОЮ**

### Цыранкевіч і вокны

Было гэта тады, калі Цыранкевіч быў яшчэ прэм'ер-міністрам. Быў ён, як вядома, лысы як калена. Сварыўся ён заўсёды на жонку, што не хоча прыбіраць у кватэры. Кватэра невялікая, а там падлога заўсёды брудная, вокны таксама. Але аднойчы вярнуўся Цыранкевіч дамоў і бачыць, што ўсё акуратна прыбрана, нават вокны — і тыя зіхацяць. Здзіўлены Цыранкевіч пытае жонку:
— Чым ты вокны мыла?
— Задніцай, — адказала тая са злосцю.
— А што гаварылі людзі, што праходзілі вуліцай?
— Добры дзень, пан Цыранкевіч! І кланяліся нізка.

### Конскі здымак

Было гэта пасля вызвалення, дзесьці ў 1946 ці якім годзе. Тады, пасля вайны, людзі жылі вельмі бедна. Ездзілі жалезнякамі, значыць драўлянымі вазамі, якіх калёсы мелі жалезныя шыны. Бывала, як гаспадары ехалі ў Беласток, то такі грукат ад шашы ішоў, быццам гэта сто браневікоў ехала. Часамі на дарогу пасылалі міліцыю, каб праверыла куды і што гэтыя вазакі вязуць. А ў той час у міліцыю прымалі маладых людзей, якія не ўмелі чытаць — галаву яны мелі на тое, каб шапку насіць. І вось аднойчы такі міліцыянер затрымаў селяніна, які ехаў у Беласток і загадаў, каб той паказаў пашпарт. Гаспадар паказаў ахоўніку парадку конскую кніжку, бо калісь былі такія дакументы для коней.
— А дзе здымак? — спытаў міліцыянер.
— А ты што, аслеп, што не бачыш? Глядзі, вось у аглоблях стаіць!

**Аляксандр Барташэвіч**

## СЕНТЭНЦЫІ

Без эмоцыяў свет быў бы, як лёд, халодны і маўклівы.

* * *

Хутчэй у марозны вечар сыпне дождж, чым жанчына, ідучы на баль, ахутае галаву.

* * *

Фіялка з шыбы — белая кветка зімы.

* * *

Раздзіраючы шрам, не загоіш раны.

* * *

Быць — гэта яшчэ не значыць: жыць.

**Барыс Руско**

## Смех у санаторыі

Казіка сустракае ксёндз і пытаецца:
— Колькі маеш дзетак, сыну?
— Двое, айчульку: дачку і сына.
— Не сорам табе?! Мужчына як дуб і толькі двое дзетак...
— Гэта так, толькі я жанаты ўсяго два тыдні.

* * *

— Ужо мінае пяць гадоў ад шлюбу, а мы ўсё не маем дзяцей, — скардзіцца сяброўка сяброўцы.
— А хаця вядома па чыёй віне?
— Па віне мужа: не выпускае мяне самой з дому.

* * *

Два пажылыя мужчыны шпацыруюць па могільніку:
— Дзе б ты хацеў ляжаць? — пытае адзін.
— Каля Фонькі. Над яго магілай растуць такія прыгожыя хвоі. А ты каля каго хацеў бы ляжаць?
— Каля Крыстыны Янды.
— Яна ж яшчэ жыве...
— Я таксама.

* * *

Кавальская экзаменуе кандыдата на зяця:
— Прашу ясна сказаць, ці адносна маёй дачкі маеце сур'ёзныя планы, ці не.
— А ці ёсць выбар?

* * *

— Ці ёсць амарылісы? — пытаецца Коля ў магазіне з кветкамі.
— Не, няма. Маем прыгожыя папараці...
— Мне патрэбны амарылісы!
— Чаму? Вось гэтая папараць вельмі прыгожая.
— Гэта праўда, толькі заўтра вяртаецца з санаторыя мая жонка, а я абяцаў падліваць амарылісы.

* * *

Дамашняя спрэчка:
— Табе толькі рогаў бракуе, а быў бы сапраўдным аслом!
— Калі асёл не мае рогаў.
— У такім выпадку табе да асла нічога не бракуе.

* * *

— Чаму мужчыны цалуюць жанчын?
— Каб на момант закрыць ім рот.

* * *

— Якая розніца між мужам і дырэктарам?
— Дырэктар ведае, што ў яго ёсць свой намеснік, а муж — не.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Пішу табе і не баюся, што злаеш мяне, скажаш, што я „к...", што абразіш мяне. Табе магу ўсё сказаць, як найбліжэйшаму чалавеку. Магу сказаць тое, чаго не скажу ўласнай маці. Што ты! Ужо бачу яе гнеў! Сама яна рана стала ўдавою, дык так усё і засталося: мы, дзеці, — сіраты, а яна — адзінокая, нешчаслівая жанчына, гледзячая з горыччу на жыццё і людзей. І не разумее мая мама, што ў жыцці можа быць інакш.

Маё жыццё склалася падобна. І я аўдавела рана, але не хацела паддацца волі лёсу. Людзі ж сустракаюцца, кахаюцца, жэняцца — не значыць гэта, што маюць стацца катаржнікамі, калі лёс перастане спрыяць ім.

Ці, калі мне не пашэнціла ў жыцці, дык павінна я цэлае жыццё сядзець і спаглядаць са смуткам у вакно?! Ці павінна я зненавідзець усіх людзей толькі за тое, што ім у жыцці вядзецца лепш? На маю думку, лепш шукаць спагады ў добрых людзей, шукаць прыяцеля, мужчыну, каб магчы адчуваць сябе — побач з ім — жанчынай.

Я так і зрабіла. Знайшла чалавека, з якім пачала жыць без шлюбу, а мама не магла мне дараваць гэтага. Такі грэх! А на дадатак ён быў шмат маладзейшы за мяне. Як жа можна пакахаць такога? — абуралася мама.

А ён быў цудоўны, прыгожы, малады і моцны. Быў добры да майго сына, якога я мела ад памершага мужа. Чаму ж я мела б яго не кахаць. Дурніца, кіне ён цябе, паглядзіш! — прадракала мама, але я нават не хацела яе слухаць. Другое каханне засланіла мне свет. Я хадзіла, як п'яная, пасля гарачых начэй. Кахаліся, кахаліся...

Калі зацяжарыла, дык ані хвіліны не сумнявалася, што нараджу ад яго дзіця. Праўду кажучы, я і сама адчувала, што ён не будзе прыхільны гэтаму майму намеру. Нібы было вялікае каханне, але часамі я заўважала, што неяк ён жыццё са мною лічыць часовым прыстанішчам. Мне было прыкра, што ён такі малады, а такі цвярозы.

Нарадзіла я дзіця, а мой каханы, не скажу, дабыў у мяне да гэтага моманту. А калі дзяўчынцы споўнілася два месяцы, кінуў мяне, так як і прадказвала мама. Думаеш, маці кінулася мяне суцяшаць, памагчы мне?! О не! З пагардай спаглядала на мяне: „А я не казала?!"

Але неяк выхавала я і сына і дачку — амаль без дапамогі маці. Маці жыла каханнем да памершага бацькі і цярпела, я — млела ад кахання да другога мужчыны ў маім жыцці. Не, не вярнуўся. Хутка пацешыўся маёй сяброўкай, але і з ёю не ажаніўся. Я стала адзінокай, як і мая мама.

І вось, уяві сабе, нядаўна, едучы па дачушку ў прадшколле, я выпадкова сустрэла ў аўтобусе свайго першага хлопца яшчэ з часоў майго дзявоцтва. Пастарэў (як і я, вядома), разведзены. Вельмі ўцешыўся, калі ўбачыў мяне. Паехаў са мной у прадшколле. Запрапанаваў пайсці ў кавярню, але я не магла з дзіцём. Даў свой тэлефон і прасіў, каб я пазваніла, калі захачу сустрэцца з ім. Я тэлефон узяла і думаю, ці варта ўжо нешта пачынаць...

Баюся сказаць пра гэта маме і таму пытаюся ў цябе: ці варта?!

**Агата**

Агата! Калі будзе табе вельмі цяжка на душы — пазвані! Ты ж сама кажаш, што не варта прыгаворваць сябе на катаргу, калі ў сваё жыццё можна ўнесці ясны праменьчык радасці.

**Сэрцайка**